Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь
УСТАНОВА АДУКАЦЫІ
"ГРОДЗЕНСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ УНІВЕРСІТЭТ
ІМЯ ЯНКІ КУПАЛЫ"

**І. Я. ЛЕПЕШАЎ**

# У фразеалагічную скарбонку

*Даведнік*

Гродна 2004

УДК 808.26
ББК 81.411.2
Л48

Рэцэнзенты: загадчык кафедры беларускай мовы Магілёўскага дзяржаўнага універсітэта імя А.А.Куляшова прафесар, доктар філалагічных навук В.І.Рагаўцоў;

дацэнт кафедры беларускага і тэарэтычнага мовазнаўства Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы, кандыдат філалагічных навук М.А.Даніловіч.

**Лепешаў І.Я.**

У фразеалагічную скарбонку: Даведнік / І.Я.Лепешаў. – Гродна: ГрДУ, 2004. – с.

ISBN 985-417-

Апісваюцца каля 600 фразеалагізмаў сучаснай беларускай літаратурнай мовы, якія па розных прычынах не трапілі ў двухтомны “Фразеалагічны слоўнік беларускай мовы” (Мінск: БелЭН, 1993) і дагэтуль не характарызаваліся ў існуючых акадэмічных і іншых слоўніках. У многіх выпадках гэта выразы, што ўзніклі зусім нядаўна. Асобна даюцца дадатковыя значэнні і варыянты раней апісаных фразеалагізмаў і іншыя ўдакладненні ў ФСБМ.

УДК 808.26
ББК 81.411.2

ISBN 985-417-

## ПРАДМОВА

У 1993 г. у выдавецтве “Беларуская Энцыклапедыя” вышаў у свет падрыхтаваны мной двухтомны “Фразеалагічны слоўнік беларускай мовы”. Яго тыраж — 15 000 экзэмпляраў (у сённяшніх умовах гэта лічба здаецца неверагоднай, фантастычнай). У слоўніку пададзена 5 755 фразеалагізмаў сучаснай беларускай літаратурнай мовы. Кожны з іх атрымаў трохбаковую (семантычную, граматычную і стылістычную) характарыстыку. Неад'емным кампанентам слоўнікавага артыкула выступае ілюстрацыйны матэрыял — прыклады-цытаты. Яны з'яўляюцца дадатковым сродкам семантычнай інфармацыі пра фразеалагізм, садзейнічаюць асэнсаванню фразеалагічнага значэння, пераконваюць у сапраўдным існаванні ў пэўным выразе таго ці іншага значэння або значэнняў, сфармуляваных у дэфініцыях, паказваюць тыповыя сінтаксічныя сувязі фразеалагізма са словамі, даюць поўнае ўяўленне пра нарматыўнае функцыянаванне фразеалагізма ў маўленні, пацвярджаюць пададзеныя напачатку звесткі семантычнага, граматычнага і стылістычнага плана.

Як сказана ў прадмове да слоўніка, ён — першая спроба стварыць даведнік, у якім выяўлена і па магчымасці поўна апісана наша фразеалогія ў яе сучасным стане.

У друку ж даволі часта сустракаюцца нічым не пацверджаныя звесткі пра колькасць фразеалагізмаў у сучаснай беларускай літаратурнай мове. Напрыклад, адзін аўтар піша, што “ў беларускай мове налічваюцца дзесяткі тысяч фразеалагізмаў”[1]; другі сцвярджае: “фразеалагічны склад беларускай мовы — некалькі дзесяткаў тысяч адзінак”[2]. Яшчэ адзін аўтар лічыць, што беларуская фразеалогія “недастаткова распрацаваная” і што “ў самым вялікім на сённяшні дзень двухтомным “Фразеалагічным слоўніку беларускай мовы” І.Лепешава толькі 6 000 адзінак”. Падаецца і супастаўленне: “Англо-русский фразеологический словарь” А.Куніна змяшчае 20 000 адзінак”[3].

Тут усё залежыць ад таго, ш т о разумець пад фразеалагізмамі. Як пісаў Ф.Янкоўскі, уключэнне ў фразеалогію выразаў тыпу *“смех бярэ, дамашняе заданне, працоўныя поспехі, глыбей узарэш — болей збярэш* вядзе амаль да “бязмежнасці” фразеалогіі”[4]. А што да англа-

---

[1] *Красней В.П.* Лексікалогія і фразеалогія беларускай мовы. — Мінск, 1982. — С. 132.
[2] *Аксамітаў А.С.* Зашыфравана ў выслоўях // Наша слова. — 1994. — № 13.
[3] *Шальманава К.* Пра некаторыя разыходжанні ў фразеалагічных мікрасістэмах // Роднае слова. — 2000. — № 12. — С.39.
[4] *Янкоўскі Ф.М.* Беларуская фразеалогія. — Мінск, 1981. — С. 26.

рускага фразеалагічнага слоўніка, дык, па-першае, у яго ўвайшлі не толькі зрашчэнні і адзінствы, якія разам са словамі выступаюць будаўнічым матэрыялам для сказаў, але і “камунікатыўныя адзінкі — прыказкі і прымаўкі”. Па-другое, не варта, напэўна, забываць і пра такі істотны фактар: у самым вялікім нашым “Слоўніку беларускай мовы” (1987) 118 тысяч слоў, а найвялікшы ў свеце лексікон — англійскі “Вялікі Оксфардскі слоўнік” — налічвае 600 тысяч слоў.

У прадмове да 1-га тома ТСБМ (с. 13) гаворыцца, што фразеалагізмы “складаюцца з двух тыпаў адзінак: тэрміналагічных спалучэнняў і ўласна фразеалагізмаў” і што першыя (напрыклад, *вуглякіслы газ*, *лімонная кіслата*) змяшчаюцца ў канцы слоўнікавага артыкула асобным абзацам за знакам **о** (кружок), а другія (“уласна фразеалагізмы”) падаюцца таксама асобным абзацам за ромбавым знакам (◊). Тут, напрыклад, у слоўнікавы артыкул **воўчы** (с. 508) за знак ромба трапілі: *воўчы апетыт*, *воўчы білет*, *воўчыя грыбы*, *воўчыя ягады*, *воўчая яма*. Ніводнае з гэтых словазлучэнняў ніяк нельга назваць ні проста “фразеалагізмам”, ні “ўласна фразелагізмам”, бо, паводле гэтага ж слоўніка, *воўчы апетыт* — гэта 'вельмі вялікі, нястрымны апетыт', *воўчы білет* — 'дакумент пра палітычную ненадзейнасць', *воўчыя грыбы* — 'агульная назва неядомых грыбоў', *воўчыя ягады* — 'чырвоныя або чорныя ягады ядавітых лясных раслін', *воўчая яма* — 'глыбокая яма з прыманкай для лоўлі ваўкоў'.

Звернемся яшчэ да двух даведнікаў: “Фразеалагічнага слоўніка мовы твораў Я.Коласа” (Мінск, 1993) і “Беларуска-польскага фразеалагічнага слоўніка” (Warszawa, 2000). У абодвух даведніках так званыя фразелагічныя злучэнні, а таксама прыказкі і крылатыя выразы ды шмат які іншы нефразеалагічны матэрыял аказваюцца не за мяжой фразеалогіі, а ўключаюцца ў слоўнікі. Вось некалькі прыкладаў: *насупіць бровы, цялячае захапленне, бярэ злосць, у ціхай вадзе чэрці водзяцца, як бугай на прадвесні, ткаць карону залатую, двуногі звер; адклад не ідзе ў лад, жывая вага, забойная вага, абвяшчаць вайну, насценная газета, адкрытае галасаванне, ганаровая грамата, будзь гатоў!* і г.д. У другім з гэтых даведнікаў пад “апорным кампанентам” *сонца* змешчана 7 адзінак, 4 з іх — прыказкі: *Загляне сонца і ў наша аконца; Пакуль сонца ўзыдзе, раса вочы выесць; Няма нічога новага пад сонцам (месяцам); І на сонцы ёсць плямы.*

У такім выпадку фразеалогію ператвараюць у звалачны пункт.

Яшчэ адзін прыклад — з рускай фразеаграфіі. Выдадзены ў 1967 г. і пасля тройчы перавыдадзены “Фразеалагічны слоўнік рускай мовы” (пад рэд. А.І.Малаткова) апісвае крыху больш за 4 000

фразеалагізмаў. А ў 1995 г. А.І. Фёдараў (адзін з чатырох складальнікаў папярэдняга даведніка) апублікаваў у Новасібірску двухтомны “Фразеалагічны слоўнік рускай літаратурнай мовы”. Тут ужо, як сказана ў анатацыі, “больш за 12 000 фразеалагічных адзінак”. Аднак сюды ўключаны не толькі, як называе аўтар, “ідыёмы”, але і “фразеалагічныя спалучэнні”, а “таксама іншыя ўстойлівыя словазлучэнні, семантыка якіх мае патрэбу ў вытлумачэнні”. Калі ў першым слоўніку не было ніводнага выразу з кампанентам *ангел*, то ў другім іх аж 8: *ангел без крылышек, ангел во плоти, ангел души моей, ангел непорочный, ангел-хранитель, падший ангел, тихий ангел пролетел*. У першым даведніку змяшчаліся пад граматычна галоўным кампанентам *дом* 4 адзінкі, у другім — іх 24, у тым ліку, напрыклад, такія: *воспитательный дом, дом свиданий, инвалидный дом, картёжный дом, сиротский дом* і г.д. Цяжка знайсці што-небудзь фразеалагічнае ў гэтых словазлучэннях

Адзін з рэцэнзентаў майго ФСБМ папракае складальніка за тое, што ён не ўключыў у даведнік “шырока ўжываемыя ў сучаснай беларускай агульнанароднай гутарковай мове фразеалагізмы”[5]. Называюцца і больш як 50 такіх “няўключаных” выразаў: *ад зубоў адскокваць, ані баліць ані свярбіць, доўбняй не заб'еш, на возе і пад возам, ні ў плот ні ў гарод, ні ў пень ні ў калоду, пень маляваны* і г.д. Але ўсе гэтыя і іншыя прыклады ўзяты рэцэнзентам з майго дыферэнцыяльнага слоўніка “З народнай фразеалогіі” (Мінск, 1991), дзе падаюцца выразы, якія не апісваліся ні ў нарматыўных слоўніках беларускай літаратурнай мовы, ні ў даведніках беларускай дыялектнай фразеалогіі і, такім чынам, належаць да фразеалагічнай нерушы. Яны не могуць быць уключаны ў фразеалагічны слоўнік **літаратурнай** мовы да таго часу, пакуль не паявяцца хоць адзінкавыя пацвярджэнні іх ужывання ў мастацкіх, публіцыстычных і іншых беларускіх тэкстах.

Амаль аналагічны папрок знаходзім і ў яшчэ адной рэцэнзіі на ФСБМ, змешчанай у часопісе “Полымя” (1995, № 2). Яе аўтар хацеў бы бачыць у двухтомніку “нямала цікавых сваіх, “незалежных” фразеалагізмаў, накшталт: *цераз казу руку падаваць, вясна вочы крадзе, аж нос упрысядкі ходзіць*”, шкадуе, што “ў слоўнік не трапіла вельмі шмат цудоўных устойлівых выразаў жывой беларускай мовы, сабраных яшчэ М.Федароўскім, І.Насовічам, Я.Станкевічам ды іншымі слыннымі фальклярыстамі і мовазнаўцамі”.

---

[5] Наша слова. — 1994. — № 13.

Нельга блытаць паняцці “літаратурная мова” і “нацыянальная мова” (або “жывая народная мова”). Тлумачальныя слоўнікі фразеалагізмаў (як і слоў) літаратурнай мовы складаюцца толькі на аснове фактычнага матэрыялу, сабранага пераважна з мастацкай і публіцыстычнай літаратуры. Менавіта на такой матэрыяльнай аснове і ствараўся ФСБМ. У ім выяўлена і, як ужо адзначалася вышэй, па магчымасці поўна апісана фразеалогія **літаратурнай** мовы ў яе сучасным стане. Зразумела, што фразеалагічны склад мовы ўвесь час папаўняецца. І я пастаянна пры чытанні беларускіх кніг, часопісаў, газет “палюю” за новымі выразамі. Частка іх (113) апісана ў адным з раздзелаў майго даведніка “У слоўнікавую скарбонку” (Гродна, 1999). Цяпер увазе чытача прапануюцца яшчэ больш за 590 фразеалагізмаў (разам з ранейшымі 113).

Адны з гэтых выразаў склаліся зусім нядаўна і сталі актыўна ўжывацца ў перыядычным друку і мастацкіх тэкстах: *выціраць ногі* аб каго*, галаўны боль, дах паехаў* у каго, *не прасыхаць, перакрываць кісларод* каму, *так бы мовіць, уставаць з каленяў, цягнуць коўдру на сябе* і г.д.

Другія (іх няшмат) былі і раней вядомыя ў асобных гаворках, адзначаліся ў дыялектных слоўніках ці зборніках прыказак і прымавак, а цяпер прыжываюцца на старонках мастацкай і публіцыстычнай літаратуры: *аж адскоквае ад зубоў* у каго, *зайцы поле гнояць* у каго, каму, *з пекла родам, ні ачарніць ні абяліць* і інш.

Трэція — існавалі ў літаратурнай мове, відаць, і раней, але па розных прычынах не трапілі ў ФСБМ, пераважна таму, што не было пацвярджальных, апраўдальных цытат пра жыццё гэтых выразаў у маўленні.

Будова слоўнікавага артыкула такая самая, як і ў ФСБМ, толькі ў нешматлікіх выпадках (у канцы слоўнікавага артыкула) скарочана паказваюцца (у квадратных дужках) крыніцы, дзе ўжо фіксаваўся пэўны выраз, або супастаўленні-параўнанні. Вось спіс гэтых скарачэнняў:

*Даніловіч* — *Даніловіч М.А.* Слоўнік дыялектнай фразеалогіі Гродзеншчыны. — Мінск, 2000.

*Лепешаў* — *Лепешаў І.Я.* З народнай фразеалогіі: Дыферэнц. слоўнік. — Мінск, 1991.

*Мяцельская* — *Мяцельская Е.С., Камароўскі Я.М.* Слоўнік беларускай народнай фразеалогіі. — Мінск, 1972.

*Насовіч* — *Носович И.И.* Словарь белорусских пословиц. — СПб., 1874.

*Прыказкі* — Прыказкі і прымаўкі. Кн. 1-2 / Склад. М.Грынблат. — Мінск, 1976.

*Раманаў – Романов Е.* Белорусский сборник. Т. 1. Вып. 1-2. – Киев, 1886.

*Федароўскі — Federowski M.* Lud bialoruski na Rusi Litewskiej. T. 4. — Warszawa, 1935.

*Юрчанка — Юрчанка Г.Ф.* І коціцца і валіцца. — Мінск, 1972; І сячэ і паліць. — Мн., 1974; Слова за слова.— Мінск, 1977.

*Янкоўскі — Янкоўскі Ф.* Беларуская фразеалогія: Фразеалагізмы, іх значэнне, ужыванне. — Мінск, 1968.

Аднак перш чым змяшчаць слоўнікавыя артыкулы са згаданымі фразеалагізмамі, варта падаць некаторыя ўдакладненні да выразаў, раней апісаных у ФСБМ.

## Дадатковыя значэнні фразеалагізмаў

Некаторыя фразеалагізмы, апісаныя ў ФСБМ як адназначныя, маюць, як паказвае маўленчая практыка, не адно, а два значэнні. Так, фразеалагізму *душа ў душу*, апрача апісанага прыслоўна-акалічнаснага значэння ‘вельмі дружна, у поўнай згодзе (жыць, пражыць)’, уласціва прыметнікавае значэнне ‘вельмі дружны’. *Ні божа мой* мае яшчэ і значэнне ‘ні пры якіх умовах, абставінах’. У асобных выразах, пададзеных у ФСБМ з двума значэннямі, выяўляецца і трэцяе значэнне. Напрыклад, першае (абсалютыўнае) значэнне фразеалагізма *па праву* – ‘законна, з поўнай падставай (лічыцца, называць, прызнаваць, рабіць і інш.)’; другое (*па праву* каго) – канструктыўна абмежаванае ‘у якасці каго- ці на становішчы каго-н.’; трэцяе (не апісанае ў слоўніку) рэалізуецца ў канструкцыі “*па праву* чаго” – ‘на падставе чаго-н., абапіраючыся на што-н.’. Трэцяе (не паказанае ў слоўніку) значэнне фразеалагізма *да апошняга* – ‘абсалютна (усе)’.

Вось гэтыя і іншыя фразеалагізмы (лічба пасля загаловачнага выразу паказвае парадкавы нумар дадатковага значэння).

**Ад бога. 2.** *Азн. і вык. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы.* Выключна здольны, таленавіты. *Юзэф Пучынскі — мастак, што называецца, **ад бога**. Якое ўжо дзесяцігоддзе не стамляецца ён здзіўляцца жыццю, красе ягонай і не перастае здзіўляць гледачоў, прыхільнікаў свайго мастакоўскага таленту творамі, у якіх люструецца свет чалавечай душы* (Р.Барадулін). *Пра Жору можна многа чаго расказваць. Гэта быў артыст, **ад бога** артыст*

(І.Новікаў). *Начальнік плаўкі Астапенка, калі ў яго пытаюць пра Бялко і Шышко, усміхаецца: — Сталявары* ***ад бога*** (ЛіМ. 6.06.1975).

**Адкідваць (адкінуць) хвост. 4.** *Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы.* Хварэць, ляжаць хворым. *Работы з яе, як з мятлы лісця, троху папоркалася ў гародзе і* ***хвост адкінула*** (Р.Барадулін). [Гэта значэнне, сярод іншых, фіксуецца і ў *Даніловіча, с. 17.*]

*Усе* **да апошняга. 3.** *Акал. Разм.* (Усе) без выключэння, поўнасцю; абсалютна (усе). **Сін.:** ад мала да вяліка; ад малога да вялікага; *усе* да аднаго; *усе* да душы; як адзін (у 1 знач.); як адзін чалавек. *Пасля вайны вялікае мы школы паканчалі заўзята і, усе* ***да апошняга****, дарослымі ўраз зрабіліся* (С.Яновіч). *Мілаш ведае, што гэта не пачуты дзе трэба піск. Няхай. Найгорш, калі ўсе* ***да апошняга*** *маўчаць* (Крыніца. 1997. № 7).

**Дзевяты вал**. [Апрача пададзеных у ФСБМ двух значэнняў гэтага фразеалагізма, варта вылучаць яшчэ адно – зыходнае, якое традыцыйна лічаць тэрміналагічным, аднак гэта звычайнае фразеалагічнае значэнне, не звязанае са значэннямі кампанентаў.] **1.** *Функц. не зам. У ролі розн. чл. ск.* Самая моцная і небяспечная хваля ў часе марской буры. *Гаварыў Асілак брату: – Глянь, дзе хвалі пеніць шторм, ці то грывай* ***вал дзевяты****, ці то зломаным крылом птушка, тонучы, махае?* (М.Танк). *З’езд пісьменнікаў – сур’ёзны экзамен для кожнага з нас. Давайце ж неператворым яго ў мора з* ***дзевятым валам****, у балаган, у смешкі і жартачкі* (У.Ліпскі). *Быццам* ***дзевятым валам*** *паднятыя, каціліся яны* [бежанцы] *на ўсход, у глыбіню Расіі, да нейкага новага, нябачнага ў тумане берага, які павінен зрабіцца іх часовым прыстанішчам* (У.Гніламёдаў). *Хоць і не такія марскія гайданкі першыў мічман Доўбік, але жончын “шторм” грознейшы за* ***дзевяты вал*** (М.Гроднеў).

**Душа ў душу. 2.** *Вык. і азн. Разм.* Вельмі дружны з кім-н. *Была ў яго* [Кузьмы] *недзе за Нясвіжам гаспадарка невялікая, жыў на ёй брат яго малодшы; а з братам ён заўсёды быў* ***душа ў душу*** (К.Чорны). *Лінія іх сумеснага жыцця* ***душа ў душу*** *была перапынена* (В.Казько).

**Між (паміж) молатам і кавадлам. 2.** *Азн. Функц. не зам.* Цяжкае, небяспечнае з абодвух бакоў (становішча). *Усё тое, што нярэдка здаралася ў нашай гісторыі, значна ўскладнялася становішчам* ***між молатам і кавадлам*** (В.Быкаў).

**На сямі вятрах.** *Разм.* **2.** *Акал. і вык.* На адкрытай, нічым не заслоненай мясцовасці (быць, знаходзіцца і пад.). *Твой Баку* ***на сямі вятрах****, а на дні сем пагод на хвіліну* (Р.Барадулін). *Ціхі домік* ***на сямі вятрах****, засаўка пісклявая ў дзвярах* (К.Камейша). *Астыглы* ***на сямі***

***вятрах*** *барак – калоціць сцены кашаль перуновы* (Маладосць. 1981. № 11).

**3.** *Акал.* Па (у) нічым не заслоненай прасторы (ляцець, імчацца, плысці і пад.). *Плывём мы* ***на сямі вятрах****, пад вастразвонны гоман косаў* (Г.Пашкоў). *Імчыць дарога, пыл завейкай круціцца, ляціць аўтобус* ***на сямі вятрах*** (І.Летка).

**На ўвесь рот. 3.** *Азн. Разм.* Шырокая, прыветлівая (усмешка). [Віктарава] *галава ў вянку сівых распатланых валасоў... І ўсмешка* ***на ўвесь рот*** (А.Кудравец).

**Ні божа мой. 2.** *Акал. Разм.* Ні пры якіх умовах, абставінах. **Сін.:** ні за што; ні за што на свеце; ні за якія грошы; ні ў якім разе; ніякімі сіламі. – *Табе што доктар прыпісаў? – Сала нельга есці. Селядца нельга. Курыць трэба кінуць. Піць –* ***ні божа мой****...* (У.Ліпскі).

**Па праву. 3.** *чаго. Акал. Функц. не зам.* На падставе чаго-н., абапіраючыся на што-н. ***Па праву*** *памяці* (Назва артыкула В.Быкава ў кнізе “Праўдай адзінай”). *Да гэтага часу, мой братка, ты валодаў мною* ***па праву*** *штыка і нагайкі...* (Я.Лёсік). *Я гэтыя словы* ***па праву*** *сілы кідаю пад ногі* (У.Караткевіч). *Русіфікацыя пад выглядам другое дзяржаўнае мовы –* ***па праву*** *двухгаловасці і надалей імперскага арла* (Я.Брыль).

**Плячысты на жывот. 2.** *Азн. Разм. Іран.* Таўстапузы. *Лектар гаварыў, што ўсе негры як адзін хочуць прыехаць да нас жыць, але* ***плячыстыя на жывот*** *крывасмокі не пускаюць іх, вось і няма прасвету ў жабрацкім жыцці* (Беларуская думка. 2002. № 5).

**Рукі доўгія** *ў каго.* **3.** Хто-н. валодае вялікімі магчымасцямі ўсюды дастаць, пакараць, знішчыць каго-н.; ад каго-н. нідзе не схаваешся. Часцей ужыв. як пагроза. *Іван Адамавіч, цяпер вы разумееце, што вас чакае, калі дзе-небудзь каму-небудзь* [раскажаце]*... У нас* ***рукі доўгія****! Даю вам дзесяць год. Пасля можаце расказваць, што бачылі тут і чулі* (М.Кусянкоў). [*Птушынскі, амаль з пагрозай:*] *Перадам. Усё перадам… І не ўздумай мінулае варушыць, Равенскі! У нас* ***рукі доўгія!*** [*Равенскі:*]: *Вон! Вон адсюль!* (Т.Аўласенка). А *яму* [бацьку] *і праўда прыснілася нешта, бо падхапіўся на локці і, няцямна гледзячы перад сабой.., пагугнявіў штосьці недарэчнае: “Мафія… У мафіі* ***рукі доўгія...****”* (Полымя. 2002. № 11-12). *І чым больш ляжаў, тым больш халадзела пад сэрцам. Як паглядзіць на ўсё, што здарылася, Чжан? У яго ж* ***доўгія рукі****, шмат памагатых, шмат вачэй… А мо ўсё-такі ўдасца ўцячы?* (П.Місько).

**Супраць (супроць, проціў) ліха на ўзгорачку. 2.** *Азн. Разм. Часцей жарт.* Не надта прыдатнае, нязручнае (пра месца знаходжання каго-н.). *Гандаль пайшоў вельмі жыва. Але месца для*

*будкі абралі не зусім добрае, як кажуць,* ***“процiў ліха на ўзгорачку”*** (А.Мрый). [Параўн. у *Насовіча*, с. 141: процiў ліха на ўзгорачку – ‘адказваюць жартам на пытанне: дзе жыве?’].

**У лоб. 3.** *Азн. Разм.* Прамалінейны, адкрыты, бясхітрасны. *Палітыка без хітравання – гэта атака* ***ў лоб****, Лара, гэта дарэмная трата сілы...* (Р.Мурашка). *Барыс, давай адразу пачнём з пытання* ***ў лоб****: ты задаволены тым, што табою напісана, і тым, як гэта напісанае ацэнена крытыкай і літаратурным асяроддзем?* (Л.Галубовіч). *Схацелася цэлага верша, і, магчыма, не такога адкрытага, як кажуць, не* ***ў лоб****, а каб у радках чулася штосьці прытоенае, прыхаванае, але каб захліствала цалкам* (Р.Баравікова).

**Як рыба ў вадзе. 2.** *Вык. Разм.* Досыць свабодны, упэўнены, натуральны. *За тэхнічны бок я зусім спакойны. З ім у нас блiскуча справы ідуць; тут я* ***як рыба ў вадзе!*** (Х.Шынклер). “*Усходнікі!” Яны не ведаюць заходняй дэмакратыі і не маюць вопыту ў гэтай гульні. А ён, Абрамчык, у такіх абставінах* ***як рыба ў вадзе*** (Л.Прокша). *Адчувалася, што для яе гэта было натуральнае асяроддзе: яна была ў такой кампаніі* ***як рыба ў вадзе*** (Н.Гальпяровіч).

## Варыянты некаторых фразеалагізмаў

Прыкладна для 31 працэнта фразеалагічных адзінак літаратурнай мовы характэрна варыянтнасць – здольнасць аднаго і таго ж фразеалагізма выступаць у дзвюх, а то і болей разнавіднасцях, узаемазамяняльных у любым кантэксце: *чорная кошка прабегла* (паміж кім) – *чорны кот прабег* (паміж кім). Гэта з’ява знайшла сваё адлюстраванне ў ФСБМ. Але, як аказалася, дзе-нідзе ёсць пропускі ці іншыя недакладнасці.

У выразах з кампанентамі *іграць, іграе* ёсць фанетычная варыянтнасць, не паказаная ў загалоўках артыкулаў, хоць і адлюстраваная ў прыкладах-цытатах. Такіх выразаў 8: *кроў іграе (грае), іграць (граць) у дудку* і інш. (гл. с. 462–463 у 1-м томе слоўніка). У іх галосны “і” нельга разглядаць як прыстаўны; ён, – чытаем у “Беларускай граматыцы. Ч. 1” (Мінск, 1985), – “належыць да асновы слова, і яго адсутнасць ніколі не бывае абумоўленай фанетычнымі ўмовамі” (с. 17). У фразеалагізмах жа з кампанентамі *рваццa, рваць, рве, рвецца, рвуць* (у адрозненне ад кампанента *іграць*) галосны “і” – прыстаўны, “прыгук зычнай фанемы”, ён заўсёды абумоўлены пазіцыйна: “не *рваў пупа* ніколі” (Т.Бондар), “не хацелася *пуп ірваць*” (Я.Радкевіч). У выразах з гэтымі кампанентамі няма фанетычнай варыянтнасці, яна і не паказваецца ў загалоўках слоўнікавых

артыкулаў, хоць, праўда, у асобных выпадках пры аналагічнай з'яве дапушчаны памылкі: *львіны (ільвіны) зеў, ілбом (лбом) сцяну прабіваць.*

У ФСБМ непаслядоўна паказваецца акцэнтная ці акцэнтна-фанетычная варыянтнасць у фразеалагізмах з кампанентамі *да́рма (дармá), сýпраць (супроць), бакí (бокі), доўгі (даўгí).*

Пададзім дадаткова варыянты, выяўленыя ў некаторых фразеалагізмах.

**Абыходзіць за сем вёрст** *каго* – варыянт фразеалагізма **абыходзіць за вярсту (за сто вёрст)** *каго* (ФСБМ, т. 1, с. 45). *Калі б яна ў такой сям'і, як мая, расла, то, вядома ж,* ***за сем вёрст абышла*** *б таго Паўла* (В.Кадзетава).

**Больш за тое** – варыянт фразеалагізма **больш (болей) таго** (ФСБМ, т. 1, с. 114). *Гэта навука і рамяство ў свой час былі не запатрабаваны.* ***Больш за тое****, да іх ставіліся як да нечага мужыцкага і непатрэбнага, абразліва і з пагардай...* (В.Казько). *Участковы ўрач Шумілаў амаль два гады не меў заўваг па службе – да леташняга кастрычніка.* ***Больш за тое****, галоўны ўрач Сакалянскі неаднойчы карыстаўся ласкай Шумілава* (В.Якавенка). *Цяжкая знясільваючая праца аніяк не надае нашым людзям фізічнага здароўя.* ***Больш за тое****. Яна не толькі знясільвае, але і атупляе, забірае час...* (ЛіМ. 15.09.2000).

**Гваздом сядзець у галаве** *каго, чыёй* — варыянт фразеалагізма **сядзець цвіком у галаве** *ў каго, чыёй* (ФСБМ, т. 2, с. 425). *"А грэх мне казаць "дурацкае", дзе толькі цемната", —* ***гваздом сядзела ў галаве*** *яго непазбытная думка* (М.Гарэцкі). *Не любіць Юзік гэтай работы. Не таму толькі, што яна вельмі цяжкая: няспорная надта. За пусцяковыя вынікі траціцца чорт што сілы і часу.* ***Гвоздом сядзіць*** *гэтая думка* ***ў*** *Юзікавай* ***галаве*** *і яшчэ горш адбівае ахвоту ад гэтай работы* (К.Крапіва).

*Напівацца (напіцца)* **да парасячага віску** – варыянт фразеалагізма **да парасячага піску** (ФСБМ, т. 2, с. 187). *Толькі страх за ўтульнае службовае крэсла ўтрымлівае. А так кожны дзень* ***да парасячага віску*** *насмокталіся б* (В.Кадзетава). *Увечары гэтага дня ён* [Раман] *пазычыў у Польцы бутэльку гарэлкі і ўпершыню ў жыцці напіўся* ***да парасячага віску*** (Ф.Сіўко). *Баба, расказваюць,* ***да парасячага віску*** *напілася і вырабляе абы-што* (Маладосць. 1999. № 9).

**Дары данайскія** – варыянт фразеалагізма **дарункі данайскія** (ФСБМ, т. 1, с. 322). *[Мікіта:] Добрыя людзі адчынілі склад з ёю*

[патакай] *на Нізкім рынку і – бяры хто хочаш і колькі хочаш. Можаце і вы набраць... [Янка:] Дзякую за такія **дары данайскія**!* (Я.Купала).

**Закараткі пяты** *чые, у каго;* **пяты кароткія** *ў каго* – варыянты фразеалагізма **кораткі пяты** *ў каго* (ФСБМ, т. 2, с. 246). *[Янка:] З гэтага нічога не выйдзе. Бо абхапіць гэтае "далей" **закараткі** вашы **пяты*** (Я.Купала). *– Ты ў Даўгялы быў? – **Пяты** ў яго **кароткія**, у твайго Даўгялы, а надзімаецца... Бюракрат пракляты!* (У.Караткевіч). *Забаўлівая жонка. Забяжыць наперад, як кошка, і пасмейваецца з гэтакім здзекам ды яхіднасцю. Маўляў, што, даражэнькі? **Кароткія пяты**?* (П.Палітыка).

**Замыкацца (замкнуцца) у сваёй шкарлупіне** – варыянт фразеалагізма **замыкацца (замкнуцца) у сваю ракавіну (шкарлупіну)** (ФСБМ, т. 1, с. 406). *Папытаў: "Ты была ў канцлагеры?" Яна спалохалася, задрыжала, сцялася і зноў хацела схавацца, **замкнуцца ў сваёй шкарлупіне*** (С.Законнікаў).

**Засячы <сабе> на носе** – варыянт фразеалагізма **зарубіць <сабе> на носе** (ФСБМ, т. 1, с. 410). *– Ёсць – пяць сутак, таварыш палкоўнік! – І **засячыце на носе**, малодшы... – Ёсць – **засячы на носе!** – бадай, весела адказаў я...* (І.Шамякін). *"А што, нельга?" Тады Зазыба падступіўся: "**Засячы сабе на носе –** другі раз па руках палучыш!"* (І.Чыгрынаў). ***Засячы сабе на носе**: добрых сабак не бывае* (В.Шаўчэнка).

**З-пад крыса** – варыянт фразеалагізма **з-пад палы** (ФСБМ, т. 2, с. 146). *Сёння а ці толькі рыбу кету, можна балістычную ракету **з-пад крыса** прадаць або купіць* (В.Макарэвіч).

**Зух супраць мух –** варыянт фразеалагізма **зух супроць мух** (ФСБМ, т. 1, с. 456). *– Добра, што Міндоўга за князя ўзялі – зух! – Гэта як малады быў... А цяпераka **зух супраць мух*** (В.Іпатава).

**І (нават) войкнуць не паспеў (-ла, -лі)** — варыянт фразеалагізма **і ахнуць не паспеў (-ла, -лі)** (ФСБМ, т. 2, с. 163). *Далей не толькі Чарнецкая, але і тысячы бабак **нават войкнуць не паспелі**, як з купала іхняй святыні іншаверцы выдралі праваслаўны крыж, устанавілі каталіцкі...* (А.Карпюк). *Раптам Курыла Валун мякка абхапіў Лукерын стан і, **не паспела** яна **войкнуць**, пасадзіў, нібы пушынку, паперадзе сябе на каня* (Л.Дайнека).

**Кідаць агонь у хату** — трывальная форма фразеалагізма **падкінуць агню ў хату** (ФСБМ, т. 2, с.120). *Толькі сяголета далучыў Вітаўт да Літвы вярхоўскія княствы, што на Аццэ. Дык мо апетыт і на большае мае? А мо проста палохае караля? І таму распускае плёткі, **кідае агонь у хату**. Дае падставы шляхце і прыдворным зласлівіць і ёрнічаць* (А.Бутэвіч).

**Ламаць хрыбет** *каму* – трывальная форма фразеалагізма **зламаць хрыбет** *каму* (ФСБМ, т. 1, с. 441). *Лявон Васільевіч даўно ўпэўніўся, што Рэпікаў нялёгкі арэшак, а Мяжэнны біты воўк. З імі толькі счапіся. Але Данілаў не такім* ***хрыбты ламаў*** (М.Гроднеў).

**Мроя сівой кабылы** – варыянт фразеалагізма **трызненне сівой кабылы** (ФСБМ, т. 2, с. 455). [Паводле плана "Барбароса"] *працэнтаў восемдзесят тубыльцаў меліся ісці пад нож, астатнія ж на анямечаных слугаў – гэтая* ***мроя сівой кабылы*** *спасылалася на гістарычны вопыт Тэўтонскага Ордэна* (А.Чобат).

**Не нагой смаркацца** – варыянт фразеалагізма **не левай нагой смаркацца** (ФСБМ, т. 2, с. 363). *– І як гэты прафесар? – Грубаваты мужык, але разумны.* ***Не нагою смаркаецца*** (У.Караткевіч). *З-за рога будынка* [Антось] *паспеў заўважыць, што ланцуг зялёных фігурак размыкаецца налева, імкнучыся, відаць, адцясніць яго на роўны пляц былой кірмашовай плошчы. "Эге, – падумаў ён грубавата, – таксама, відаць,* ***не нагою смаркаецеся****"* (У.Караткевіч).

**Нібы перакаці-поле** – варыянт фразеалагізма **перакаці-поле** (ФСБМ, т. 2, с. 177). *Валодзя ў іх* ***нібы перакаці-поле****. Дзе ўжо не пажыў толькі! Казаў, што настальгію шызафрэнікі прыдумалі. Дзе добра, там і радзіма. А Веры і падумаць страшна, каб з месца зрушыцца. І маці як пакінуць? Быў бы яшчэ бацька жывы...* (В.Кадзетава).

**Ногі занеслі** *каго* – трывальная форма фразеалагізма **ногі нясуць (неслі)** *каго* (ФСБМ, т. 2, с. 93). *І невядома, як* ***занеслі*** *Берасневіча* ***ногі*** *на цвінтар царквы, што амаль над самай ракою* (У.Караткевіч).

**Пайсці па розум да галавы** – варыянт фразеалагізма **пайсці ў галаву па розум** (ФСБМ, т. 2, с. 135). *[Янка:] Устаткуецца ваш Мікітка з часам і* ***пойдзе па розум да галавы****. А цяпер ён жа яшчэ малады ў вас* (Я.Купала). [*Федароўскі*, с. 264: пайсці па розум да галавы.]

**Пракаўтнуў язык** – варыянт фразеалагізма **як (быццам) язык праглынуў (пракаўтнуў).** *Расказаў Сідоркін дзеду пра свае нягоды, і зноў стары* ***пракаўтнуў язык*** *на суткі* (В.Праўдзін).

**Пры цару гароху калі (як) людзей было троху** – варыянт фразеалагізма *пры цару гароху* (ФСБМ, т. 2, с. 538). *І ўспамінаюць часы* ***пры цару Гароху, калі людзей было троху****, калі ішлі скураныя рублі і драўляныя капавікі* (Р.Барадулін). *[Лепешаў*, с. 60: пры цару гароху як людзей было троху; *Раманаў*, № 501: при царе Горохе, як было людей трохи.*]*

**Пяты кароткія** *ў каго.* Гл. **закараткі пяты** *чые, у каго.*

**Свяціць голым задам** – варыянт фразеалагізма **свяціць голым целам (пузам)** (ФСБМ, т. 2, с. 328). *Вот ты, Пятро, дзень і ноч ірвеш, баб сваіх пазаганяў, а як жывеш?* ***Свеціш голым задам****, як і я. Тыя самыя пасталы носіш. Што ты добрае бачыш?* (І.Навуменка). *Яму не толькі гамаць, але і апранацца ў нешта патрэбна, каб не* ***свяціць голым задам*** (І.Чыгрынаў). *Мы, бабы з вёскі, хадзілі пасля вайны пехатой аж у Мінск. Насілі на камароўку табаку: бесарабку і мультанку – мяняць на адзежу... І даходзілі, і прыносілі хоць што, каб і самому, і дзецям* ***голым задам*** *не* ***свяціць*** (І.Пташнікаў).

**Трасца гоніць (прыгнала)** *каго* – варыянт фразеалагізма **трасца нясе (прынесла)** *каго* (ФСБМ, т. 2, с. 451). *Усе адказы – нервова-адрывістыя. Маўляў, чаго цябе* ***трасца прыгнала*** *сюды?* (П.Місько).

**Укладаць (укладваць, укласці) у вушы** *каму, чые, што* – варыянт фразеалагізма **ўводзіць (увесці) у вушы** *каму што* (ФСБМ, т. 2, с. 476). *Што ж, можа, мне хаця ў апошні раз дадзена будзе* ***ўкласці*** *ў чые-небудзь* ***вушы*** *хаця кавалачак праўды* (У.Караткевіч). *Хто ж пачаў* ***укладаць*** *нам* ***у вушы*** *міф пра “недаробленасць” нашай нацыі?* (А.Астраўцоў). [Міндоўгу] *гэта* ***ўкладвалі ў вушы*** *князь Ізяслаў і ён, Усяслаў* (Г.Далідовіч).

**Уссесці на свайго канька** – варыянт фразеалагізма **садзіцца (сесці) на свайго <любімага, улюбёнага> канька** (ФСБМ, т. 2, с. 304). *“Паліцік” Аляксей* ***уссеў на свайго канька****: абураецца саюзнікамі, якія так лёгенька дайшлі амаль да Берліна...* (П.Місько).

**Што сліна да губы прынясе (прынесла)** – варыянт фразеалагізма **што сліна на язык прынясе (прынесла)** (ФСБМ, т. 2, с. 354). – *За* [вершаваны] *радок – два рублі!.. Дык гэта ж можна сотню рублёў выгнаць – пішы сабе ды пішы... Гэта ж не дровы пілаваць... – Пішы* ***што сліна да губы прынясе****, а хто цябе тады надрукуе? – ускліknула абураная Антаніна. – Як ты любіш чужыя грошы падлічваць! І не сорамна табе* (У.Дамашэвіч). *[Лепешаў,* с. 81: *што сліна да губы (губ, губой) прынясе (прынесла).* Выраз ужываўся і ў старажытнай беларускай літаратуры, напрыклад у палемічным помніку “Антиризисъ...” (1599): *И тамъ же далей лжитъ, соромотитъ, владыковъ,* ***што ядовита слина до губы прынесла****, запаметавши своее обетницы, же ни кому лаяти не мелъ.]*

**Які чорт нясе** *каго куды* – трывальная форма фразеалагізма **які чорт занёс (прынёс)** *каго куды* (ФСБМ, т. 2, с. 564). *Вось ты – аграрый. Дык хачу спытацца:* ***які*** *ў парламент* ***чорт нясе****? Як зможаш ты ў законах разабрацца, не разабраўшыся ў жыце і аўсе?* (М.Міранавіч).

**Як на нажах** – варыянт фразеалагізма **на нажах** (ФСБМ, т. 2, с. 69). *Мо так думаю толькі я, а ты інакш? І з-за гэтага мы **як на нажах**?* (І.Капыловіч).

## Іншыя ўдакладненні ў ФСБМ

Пасля выхаду ФСБМ у свет (1993) я сотні разоў звяртаўся да яго і знаходзіў раней не ўбачаныя промахі. На некаторыя недакладнасці паказвалі калегі-фразеолагі, асобныя настаўнікі, студэнты і аспіранты. Думаецца, што ў далейшым пры карыстанні слоўнікам варта ўлічваць гэтыя промахі.

1. У ФСБМ асобна, у двух слоўнікавых артыкулах апісваюцца *бог пакрыўдзіў* (каго чым) і *бог не пакрыўдзіў* (каго чым). Але гэта не два фразеалагізмы, а адзін, ён можа ўжывацца як з часціцай *не*, якая пры гэтым выконвае функцыю адмаўлення, так і без *не*. Ён найчасцей выкарыстоўваецца з адмоўем *не*, таму ў такой канструкцыі яго і трэба было даваць у загалоўку слоўнікавага артыкула, а пасля, у тым жа артыкуле, змяшчаць і другую, сцвярджальную канструкцыю (без *не*) з паметай “з супрацьлеглым значэннем”. Гэтак у ФСБМ падаецца шэраг выразаў, напрыклад: *у цемя не біты* (у загалоўку) — *у цемя біты* (у сярэдзіне артыкула).

2. У слоўніку адлюстраваны сінанімічныя сувязі паміж фразеалагізмамі. У сінанімічны рад *ледзь душа ў целе* (у каго) — *у чым толькі душа трымаецца* (у каго) варта ўключаць і яшчэ адзін выраз — *хоць у дамавіну кладзі* (каго). Усе яны вельмі блізкія ў сэнсавых адносінах і амаль ва ўсіх выпадках узаемазамяняльныя.

У 2-м томе ФСБМ (с. 321) адзін слоўнікавы артыкул даецца ў такім загаловачным афармленні: **свет пераварочваецца <у вачах>** *каму <чыіх>*. Аднак гэта не адзін фразеалагізм з канструктыўна-колькаснай варыянтнасцю (з факультатыўнымі кампанентамі *ў вачах*), а два фразеалагічныя сінонімы, якія, па-першае, адрозніваюцца сваімі спалучальнымі магчымасцямі. Абодва яны маюць канструктыўна абмежаванае значэнне, патрабуюць інфарматыўнай падтрымкі з боку залежнага ад іх слова, але ў першага *(свет пераварочваецца)* — гэта канструкцыя “фразеалагізм + *каму*”, а ў другога *(свет пераварочваецца ў вачах)* — “фразеалагізм + *чыіх*”. Па-другое, як вынік першага адрознення, гэтыя фразеалагізмы не паддаюцца ўзаемазамяняльнасці, пры спробе замены аднаго другім патрабуецца абавязковая перабудова сказа. Напрыклад: “Пальчык працягнуў руку, каб схапіцца за суседава плячо і ўстаяць на нагах, але *свет перавярнуўся ў яго вачах...*” (У.Дамашэвіч). Гэтак жа сама павінны апісвацца (не як

варыянты, а як сінонімы) і такія фразеалагізмы: *кроў гарыць* (у каго) — *кроў гарыць у жылах* (чыіх); *ледзяніць кроў* (каго) — *ледзяніць кроў у жылах* (чыіх).

Яшчэ адзін слоўнікавы артыкул (т. 2, с. 62): *наводзіць цень на пляцень (на светлы дзень).* І тут не варыянтнасць, а сінанімія. Кожны з фразеалагізмаў адрозніваецца сваім этымалагічным вобразам.

3. У некалькіх выпадках, наадварот, маем справу не з сінонімамі, а з варыянтамі. Наступныя варыянтныя пары трэба лічыць марфалагічнымі разнавіднасцямі аднаго і таго ж выразу, якія адрозніваюцца склонавай або прыназоўнікава-склонавай формай кампанента: *носам у нос — нос у нос; тварам у твар — твар у твар; не палахлівага дзесятка — не з палахлівага дзесятка; бачыць на тры сажні пад зямлёй — бачыць на тры сажні ў зямлю; за дрэвамі не бачыць лесу — з-за дрэў не бачыць лесу.* Варыянтамі трэба лічыць *адкуль вецер дзьме* і *куды вецер дзьме* (ужываюцца пры аднолькавых дзеясловах-суправаджальніках *ведаць, разумець* і пад.).

4. На с. 83 у 2-м томе слоўніка ёсць артыкул: *наша (ваша, маё, тваё, яго, іх, чыя, чыё) бярэ (узяло, возьме).* Але тут толькі *чыя бярэ, чыё бярэ* — варыянты, узаемазамяняльныя ў любым кантэксце. Усе астатнія — не варыянты і не сінонімы, а шэсць самастойных фразеалагізмаў. Кожны з іх сэнсава адрозніваецца ад іншага. *Наша бярэ* — гэта ‘мы перамагаем’; *ваша бярэ* — ‘вы перамагаеце’; *маё бярэ* — ‘я перамагаю’; *тваё бярэ* — ‘ты перамагаеш’; *яго бярэ* — ‘ён перамагае’; *іх бярэ* — ‘яны перамагаюць’. Напрыклад: “—Я вельмі рада. — Чаго? — Што *наша ўзяло. — Наша ўзяло*, а *тваё*-то яшчэ невядома. — Калі *наша*, то і *маё*” (К.Крапіва); “—Давай на заклад, што *маё возьме.* — Не, пабачыш, *наша возьме.* — Што ж? *Ваша ўзяло*? Нікуды не дзенешся!” (Ф.Янкоўскі).

5. Каля 7 % фразеалагізмаў, змешчаных у ФСБМ, ахоплена антанімічнымі адносінамі. І гэта пазначаецца ў слоўніку. Да іх варта дадаць і такія выразы з супрацьлеглым значэннем і аднатыпнай спалучальнасцю: *з аганьком — цераз пень калоду* (у 1 знач.); *ад калыскі — да магілы.* Ужываючыся ў сказе, яны часам супрацьпастаўляюцца: “Ад калыскі да магілы выціскалі сокі...” (К.Крапіва). Антанімічнымі трэба лічыць і фразеалагізмы *лёд крануўся – кропка пастаўлена.*

6. Застаецца адкрытым пытанне, як падаваць у слоўніку дзеяслоўныя фразеалагізмы, у якіх стрыжнёвы кампанент-дзеяслоў мае суадносныя пары незакончанага і закончанага трывання: *рабіць з мухі слана — зрабіць з мухі слана.* У адных слоўніках абедзве трывальныя формы прыводзяцца (праз кропку) у загалоўку артыкула:

*Рабіць з мухі слана. Зрабіць з мухі слана.* У другіх — пасля дзеяслоўнага кампанента даецца ў круглых дужках форма закончанага трывання: *Рабіць (зрабіць) з мухі слана.* Сэнс фразеалагізма ў абодвух выпадках тлумачыцца па дзеяслоўнай форме незакончанага трывання: 'беспадстаўна перабольшваць што-небудзь'. У ФСБМ падаюцца ў дужках і варыянты фразеалагізма, таму калі дзеяслоўнаму фразеалагізму ўласціва лексічная варыянтнасць, а яго граматычна галоўны кампанент здольны ўжывацца ў незакончаным і закончаным трыванні, то ў загалоўку трывальныя формы аддзяляюцца адна ад другой кропкай з коскай: *Выходзіць (вылазіць) наверх; выйсці (вылезці) наверх.*

У тлумачальных жа даведніках слоў абедзве трывальныя формы займаюць сваё алфавітнае месца ў слоўніку. Звычайна апісваецца дзеяслоў у форме закончанага трывання (напрыклад, *звязаць*), а ў адпаведным іншым месцы слоўніка даецца суадносны дзеяслоў незакончанага трывання, напрыклад: *Звязваць... незак. да* звязаць (у 1-8 і 10 знач.).

Думаецца, і ў фразеалагічных слоўніках абедзве трывальныя формы павінны змяшчацца на сваіх алфавітных месцах, а распрацоўку фразеалагізма трэба даваць у адным слоўнікавым артыкуле: спачатку апісваецца загаловачны выраз у форме незакончанага трывання (з паметай "незак."), а пасля (у сярэдзіне артыкула) прыводзіцца гэты ж выраз у форме закончанага трывання — без тлумачэння, але з паметай "зак." і адпаведным ілюстрацыйным матэрыялам.

Як вядома, далёка не ўсе дзеясловы маюць суадносную трывальную пару. Параўн., напрыклад, *ісці* і *пайсці.* У ТСБМ (т. 2, с. 562–564) апісваецца дзеяслоў незакончанага трывання *ісці* (ён мае найбольшую колькасць значэнняў сярод слоў беларускай мовы: 28 значэнняў і 35 адценняў). Дзеяслоў *пайсці* (т. 3, с. 605–606) апісаны так: "**1.** *Зак. да* ісці (у 2, 3, 7, 16, 24, 25 знач.). **2.** Пачаць ісці (у 1, 4, 5, 8, 15, 26 і 27 знач.)... **3.** Пачаць расці, вырастаць... **4.** *з інф. незак.* Пачаць рабіць што-н.".

Часам у ФСБМ, як, дарэчы, і ў рускіх і ўкраінскіх фразеалагічных слоўніках, сустракаюцца недакладнасці пры падачы трывальных пар. Так, паміж *вадзіць за нос* і *павадзіць за нос* няма трывальнай суадноснасці, як няма яе і паміж дзеясловамі *вадзіць* і *павадзіць. Павадзіць за нос* — гэта самастойны выраз са значэннем мнагакратнасці, ён мае ў сваёй сэнсавай структуры семы 'нейкі час, звычайна працяглы' і 'неаднаразова': "Павадзіла партызанка тых фашыстаў за насы" (П.Панчанка).

Нельга таксама лічыць трывальнымі формамі аднаго фразеалагізма выразы *біць крыніцай* і *забіць крыніцай*, бо другі з іх паказвае не на завяршэнне дзеяння, а на пачатак, мае адценне пачынальнасці: “Забіла крыніцай культурнае жыццё” (Р.Шкраба). Загаловак аднаго слоўнікавага артыкула ў ФСБМ (т. 1, с. 269) мае такі выгляд: *глытаць (глынуць, паглытаць) сліну.* Але тут таксама не варыянтны рад і не трывальныя суадносіны, а тры выразы. Другі з іх *(глынуць сліну)* мае адценне аднакратнасці, а трэці *(паглытаць сліну)* — мнагакратнасці. Кожны з гэтых выразаў варта апісваць у асобных слоўнікавых артыкулах. Параўн., напрыклад, як падаюцца ў ФСБМ выразы *гуляць у маўчанку* (т. 1, с. 298), *заліваць вочы* (т. 1, с. 402), *каціць бочку* (т. 1, с. 500) і, адпаведна ў г э т а й маёй кнізе, не супрацьпастаўленыя па трыванні фразеалагізмы *пагуляць у маўчанку, пазаліваць вочы, пакаціць бочку.*

Як відаць са сказанага, у некаторых выпадках, параўнальна нешматлікіх, словаўтваральныя афіксы, асабліва прыстаўкі *па-*, *за-*, не страчваюць свайго рэальнага значэння, утвараюць, у адносінах да зыходнай формы, фразеалагічныя дэрываты, якія павінны апісвацца ў слоўніках на сваіх алфавітных месцах.

Цяпер у гэтым даведніку ўлічаны згаданы словаўтваральны фактар асобных марфем дзеяслоўнага кампанента і выпраўлены, відаць, усе ранейшыя недакладнасці ў падачы трывальных пар. Сюды ўключаны і апісаны наступныя дзеяслоўныя фразеалагічныя адзінкі вытворнага характару, а таксама некалькі несуадносных фразеалагізмаў з дзеяслоўным кампанентам у іх складзе (*галава закружылася* ў каго, *душа заныла* чыя, каго, у каго, *закруцілася ў галаве* ў каго і інш.): *бакі пападрываць, вайком завыць, выпіць горкую чашу да дна, вярхом паехаць* на кім, *глынуць сліну, забіць крыніцай, забіць трывогу, забіць у званы не паглядзеўшы ў святцы, завесці сваю катрынку, завіляць хвастом, задраць нос, зазваніць ва ўсе званы, зайграць у адну дудку* з кім, *зайграць у дудку* чыю, каго, *закапыліць нос, запець лазара, запець рэпку, запудрыць мазгі* каму, *заскакаць пад дудку* чыю, каго, *застукаць ва ўсе дзверы, захварэць на пана, згуляць у паддаўкі, навастрыць вушы, наламаць дроў, наплесці кашалёў* каму, пра каго, *наставіць вушы, натапырыць вушы, паабіваць парогі* чые, каму, каго, чаго, *павадзіць за нос* каго, *павесці рэй, павылятаць з гнязда* чыйго, *паглытаць сліну, пагрэць лоб, пагуляць у ката і мышку, пагуляць у маўчанку, пазаліваць вочы, пайграць на нервах* <чыіх, каму>, *пайсці ва-банк, пайсці па крывой сцежцы, пайсці наперадзе прагрэсу, пайсці рукой, пайсці ўгору, пайсці ў людзі, пайсці ў рожкі* з кім, *пакаціць бочку* на каго, *пакаціцца ад смеху, паламаць*

*шапку* перад кім, *палезці на ражон, палезці ў галаву* каму, *памалоць языком, памянціць языком, папаласкаць косці* чые, каго, *паплакаць у камізэльку,* многа, шмат, нямала, колькі *папсаваць крыві* каму, *папсаваць нервы* каму, *паразяўляць раты, параспускаць языкі, пасказіць зубы, паскручваць галовы* каму, *пасушыць зубы, патачыць лясы* <з кім>, *патрапаць языком, пачасаць язык, пачухаць патыліцу, развесіць вушы, сапсаваць <усю> абедню* каму, *сыграць першую скрыпку* ў чым, *сэрца забалела* ў каго, па кім, *<увесь> ператварыўся ў слых, ударыць у набат, ударыць у нос, ударыць у хамут, чорт пацягнуў за язык* каго.

Можна таксама адзначыць некаторыя недакладнасці ў граматычнай характарыстыцы асобных фразеалагізмаў. Так, выраз *свежае вока* мае памету *мн. не ўжыв.* Больш правільнай была б памета *часцей адз.*, бо зрэдку выраз ужываецца і ў форме множнага ліку: “Памылкі ў газетах — і цяпер з’ява нярэдкая. А паўстагоддзя таму назад і тэхніка была яшчэ недасканалая, і абсталяванне горшае, чым цяпер, і асвятленне, і арганізацыя працы... Хоць і прызначаліся там розныя “кантрольныя рэдактары”, *“свежыя вочы”,* ды чалавек ёсць чалавек, ён не машына...” (Х.Жычка).

***

Далей у алфавітным парадку даюцца слоўнікавыя артыкулы больш як 590 фразеалагізмаў. У шмат якіх выпадках у алфавітны парадак уключаны і адсылкі да месца распрацоўкі фразеалагізма, напрыклад: **Лямант у пустыні**. *Гл.* <марны> лямант (голас) у пустыні. Гэта робіцца тады, калі а) загаловачны выраз пачынаецца факультатыўным кампанентам: *<адна> шайка-лейка*; б) першы кампанент мае лексічныя варыянты: *адвейваць (веяць, адсейваць) зерне ад паловы (мякіны)*; в) трывальныя разнавіднасці першага (дзеяслоўнага) кампанента алфавітна не супадаюць: *рабіць (зрабіць) з камара каня.*

**А**

**Абкласці чырвонымі сцяжкамі** *каго. Разм. Ужыв. пры дзейн. са знач. сукупнасці асоб ці абстр. прадмета.* Стварыць крайне неспрыяльныя ўмовы для чыёй-н. жыццядзейнасці. *Я стратэг, мілая Ірына. Мяне тут спрабавалі* ***абкласці чырвонымі сцяжкамі****, ды я воўк біты. Таму рашыў абхітрыць усіх, і вас у тым ліку* (С.Бязлепкіна). *І колькі я ні старайся з калгаснымі спецыялістамі прадпрыняць нейкія кардынальныя меры па ўздыме нашай гаспадаркі, але ўсе мы* ***абкладзены чырвонымі сцяжкамі*** *калгасна-саўгаснай сістэмы, сацыялістычна-каманднага гаспадарання* (В.Гроднікаў). *Атрымліваецца, што рэдактара газеты* ***абклалі чырвонымі сцяжкамі*** (Нар. воля. 7.05.2002).

**Абліванне граззю <*каго*>**. *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Разм. Неадабр.* Несправядлівае абвінавачванне, незаслужанае зневажэнне. **Сін.:** утоптванне ў гразь *каго, чаго. Масей Сяднёў як мага старайся быць нейтральным да бакоў, што змагаліся між сабой, не займайся паклёпніцтвам і* ***абліваннем граззю*** *свайго непрыяцеля* (ЛіМ. 3.09.1999).

**Агенцтва АБС.** *Гл.* радыё (агенцтва) АБС.

**Аглядацца (азірацца) назад; аглянуцца (азірнуцца) назад.** *Функц. не зам. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы.* Прыгадваць мінулае, ранейшае, пражытае, спрабуючы даць яму ацэнку. ***Аглядаючыся назад,*** *пачынаю разумець, як шмат дала нам родная школа: выхавала веру ў чалавека, сумленнасць, праўдзівасць, дабрыню, усё тое, без чаго нельга жыць* (Настаўн. газ. 26.01.2002). *Асабліва верылі ў гэта* [што шчасце наперадзе] *камуністы, без аніякіх сумненняў, самаахвярна, з фанатызмам. Яны не* ***азіраліся назад,*** *усё не было часу…* (Л.Дайнека). *М.Вайцяшонак увесь час няўпэўнена — асцярожна і беражліва — усталёўваецца на сваім крэўным месцы, раз-пораз* ***азіраючыся назад,*** *у сваё прамінулае, але яшчэ не да канца асэнсаванае жыццё…* (Л.Галубовіч). *У жыцці вельмі важна час ад часу прыпыніцца,* ***азірнуцца назад*** *і задумацца: “А ці правільнай дарогай мы ідзём?”* (А.Драбчук).

**Адвейваць (веяць, адсейваць) зерне ад паловы (мякіны); адвеяць (адсеяць) зерне ад паловы (мякіны)**. *Функц. не зам. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы.* Аддзяляць добрае ад дрэннага, карыснае ад шкоднага, непатрэбнага. *Калі яны* [копіі лістоў] *для вас акажуцца непатрэбнымі, я тады, будучы ў Мінску, забяру назад. Але мне чамусьці здаецца, што Вы здолееце* ***адвеяць зерне ад паловы*** (У.Дубоўка). *Тую памяць, адлітую ў слова, час няўмольны не астудзіў.*

***Зерне веялі*** *мы* ***ад паловы*** *на Нямізе, 21* (В.Зуёнак). *Некаторыя аўтары спрабуюць правесці інвентарызацыю савецкага перыяду беларускай літаратуры,* ***адсеяць зерне ад паловы*** (А.Сідарэвіч). *Прашу: "Дапамажы мне, Божа..." Ды прытчай ён пачаў вучыць: "****Адвеюць зерне ад паловы*** *над полем веснім жаўрукі, і, не ўвасобленая ў слова, бруіцца песня праз вякі..."* (ЛіМ. 31.05.2002). *Дарэмна адміністрацыя палезла са сваім кантролем, каб* ***адсеяць зерне ад мякіны*** (А.Чобат). *Нашмат цяжэй разабрацца ў тым, дзе ў гэтым палітычным супрацьстаянні мана, а дзе — праўда, каб раз і назаўсёды* ***адвеяць зерне ад мякіны*** (Я.Міклашэўскі).

**Адданне чэсці.** *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам.* Вітанне каго-н. па-ваеннаму, з прыкладаннем рукі да галаўнога ўбору. *І заўважаецца адразу тут іншы край.., парадак, дысцыпліна, лад,* ***адданне чэсці****...* (Я.Колас). *Генерал.. будзе "распякаць" нас: "Я патрабую* ***аддання чэсці****... Я буду аддаваць пад суд..."* (Полымя. 1988. № 5).

**Ад дошкі да дошкі.** *Акал. Разм.* Цалкам, поўнасцю, нічога не прапускаючы (чытаць, прачытаць, вывучыць і пад.). **Сін.:** ад коркі да коркі. *Жураўскі праглядаў толькі апошнія старонкі: спорт, фельетоны, здарэнні... Валовіч і Сініцын чыталі ўсё, як кажуць,* ***ад дошкі да дошкі****. Затым абмяркоўвалі прачытанае* (М.Герчык).

**Адзін да аднаго**. *Вык. Разм. Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета.* Зусім аднолькавыя (часцей пра якія-н. непрыемнасці). *На беларускую справу на Беларусі заўсёды не ставала сродкаў. Не ставала на пачатку стагоддзя, гэтак не стае і зараз, на самым канцы яго — сітуацыя з выданнем беларускай кнігі амаль тая ж, ці не* ***адзін да аднаго*** (М.Гіль).

**Адзін на адным.** *Акал. Разм. Ужыв. пры вык.-дзеясл. у форме мн.* Гуртам, скучана, у цеснаце, вельмі блізка адзін ад другога (сядзець, стаяць і пад.). *Немцы сядзелі* ***адзін на адным.*** *Набралі з сабой машынкаў, пакункаў, бурчаць на нас, ледзь не выпіхваюць з вагона* (Л.Геніюш). *Калісьці і жылі дрэнна. Вёска была вялікая, сядзелі* ***адзін на адным****. Калі ж даводзілася дах крыць, гной трэсці, дровы рэзаць, збіралі талаку* (С.Лобач). [*Лепешаў,* с. 15-16; *Даніловіч,* с. 16: *адзін на адным.*]

**Адзін хрэн** *каму. У безас. ужыв. Праст. Незадав.* Абсалютна аднолькава, без розніцы, не мае значэння для каго-н. **Сін.:** абы дзень да вечара *каму* (у 2 знач.); адзін чорт <*каму, для каго*>; адна трасца <*каму*>; адна халера; адно ліха; і горла мала *каму*; і не шум баравы *каму*; ні горача ні холадна *каму ад чаго;* усё адно (у 2 знач.); усё роўна (у 4 знач.); хоць бы хны (у 3 знач.); хоць бы што (у 3 знач.); хоць воўк

траву еш; хоць патоп; хоць трава не расці <*каму*>; што з гусі вада *з каго, каму*; як з гусака вада *з каго. Думаў, што ў горадзе лепш. Тры гады ў дэпо на чыгунцы працаваў.* ***Адзін хрэн*** (А.Чарнышэвіч). *Ну, напрыклад, хто і як правіць там, наверсе, то што яму* [селяніну] *да таго?.. Па вялікім рахунку яму –* ***адзін хрэн*** (В.Гроднікаў).

**Ад зубоў адскоквае** *ў каго.* Гл. <аж> адскоквае ад зубоў *у каго.*

**Адкрыццё Амерыкі.** *Часцей вык. Разм. Часцей іран.* Вынаходніцтва, выяўленне чаго-н. новага. *А што тычыцца імперскай мовы, то і гэтае сцвярджэнне не* ***адкрыццё Амерыкі****. Нобелеўскі лаўрэат І.Бродскі пісаў, што “мова – рэч імперская”* (А.Вальфсон).

*Ведаць, высвятляць* і пад. **адкуль ногі растуць**. *У знач. дадан. ск. Праст.* (Ведаць, высвятляць і пад.) у чым сутнасць справы, з-за чаго пачалося што-н. *Сяргею карцела заявіць, што гэта агідна: пераносіць сямейныя звадкі на службовыя справы, не ведаючы,* ***адкуль растуць ногі****, — са слоў аднаго чалавека, хоць бы і жонкі* (Я.Кантылёў). *Цяпер уцяміў,* ***адкуль ногі растуць****? Ты не зразумеў намёку генерала, перадаў матэрыял у следства, пляменніку ўляпілі чатыры гады. Інспектарская праверка — звядзенне рахункаў з табой…* (В.Праўдзін). *Пачынаем высвятляць,* ***адкуль растуць ногі****. Аказваецца, міністэрства юстыцыі прааналізавала нашу публікацыю і прыйшло да высновы…* (Свабода. 9.08.1996). *Калі кампрамісу не знаходзілі, тады нам даводзілася “працаваць” з аўтарам, які не павінен быў нават ведаць,* ***адкуль ногі растуць****, — згадваць Галоўліт нельга было ні пры якой умове* (А.Бутэвіч).

<**Адна**> **шайка-лейка.** *Мн. не ўжыв. Часцей вык. Праст. Неадабр.* Група людзей, аб’яднаных агульнымі інтарэсамі ці паводзінамі, учынкамі. *– Ты скажы, дзе хаваецца твой Рыгор?.. – Я за Рыгорам не хаджу; дзе ён – я не ведаю. – Брэшаш! Вы* ***адна шайка-лейка****, – і бандыт перацягнуў Таццяну тоўстым гарапнікам* (Я.Нёманскі). *А што ты мне пакажаш?! Што ты ведаеш?! Сабралася тут* ***адна шайка-лейка****. Законы свае ўстанаўляе* (Р.Кобец). *Аўлас, Карпусь, Ярэма – гэта ж* ***шайка-лейка****. З іх увесь свет гарыць* (С.Баранавых). *– Гэта ж падумаць: шасцярым насы расквасіў. – Дык каму –* ***шайцы-лейцы*** *бандзюкоў. Дзяўчыну абараняў* (Л.Калодзежны).

**Адным махам семярых (сем мух) забіяхам (забівахам).** *Разм. Іран. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы.* **1.** Меркаваць пра каго- ці што-н. зусім аднолькава, не ўлічваючы індывідуальных асаблівасцей. **Сін.**: мерацць адной меркай *каго, што*; мераць на адзін аршын *каго, што*; мераць на адзін капыл *каго, што*; ставіць на адну дошку *каго з кім, што з чым, каго і каго, што і што*; ставіць знак роўнасці *паміж кім, паміж чым*; ставіць у адзін рад *каго з кім*; стрыгчы пад адзін грабянец

*каго. Нельга на адзін аршын мераць — “**адным махам семярых забіяхам**” — і ўсіх рэдактараў, якія ў большасці таксама пісьменнікі, ды і ўсіх пісьменнікаў…* (Б.Сачанка). *Б.Бур'ян пералічвае добры дзесятак паэтаў самых розных творчых манер і кірункаў і ўсіх агулам, без разбору, абвінавачвае ў грахах смяротных… Чытаў я і дзівіўся: да чаго ж у крытыкаў лёгка ўсё гэта атрымліваецца! Вось ужо дзе сапраўды: **адным махам семярых забіяхам!*** (Н.Гілевіч).

**2.** Хутка, без роздуму і не сумняваючыся, справіцца з чым-н. *Руская муха “зуха”: яна мае “ўхараўскія” ўхваткі, нібыта яна сама вынайшла прымаўку **“адным махам сем мух забіяхам”** і сама ж намерваецца яе спраўдзіць* (А.Разанаў). [*Насовіч*, с. 119: адным махам семсот душ забіяхам; *Федароўскі*, с. 173: адным махам сто забівахам.]

*Жыць* **адным (сягонняшнім, сённяшнім) днём**. *Акал. Разм.* Без клопату пра будучае, не задумваючыся пра наступствы, без разлікаў наперад. **Сін.**: *жыць* як набяжыць. *Дарэчы, на Захадзе ўсе лічаць грошы, **адным днём** не жывуць. Так вядзецца спрадвеку* (С.Законнікаў). — *Ці чуюць вось гэтыя людзі набліжэнне часу, калі мы выступім?.. — Што ім да таго: яны жывуць **сягонняшнім днём** — момантам* (Ц.Гартны). *На мяжы хмызнякоў і поля вырастаў з дошак і бярвення пасёлак, дзе людзі не асталёўваліся як мае быць, а жылі **сённяшнім днём**…* (К.Чорны).

**Адпіць мазгі**. *Праст. Асудж. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы.* У выніку п'янства страціць здольнасць нармальна паводзіць сябе. *Цяпер кожны з іх з той жа згодай меркаваў і гадаў, чаму ж ён памёр: — Дзеўка тая яго і змучыла. Давяла да магілы. — Ад гарэлкі сканаў. **Адпіў мазгі*** (В.Казько). *Ты, бацька, часам хоць і вып'еш, але ні сям'і, ні работы не цураешся, а маё гора* [муж]*… Зусім **мазгі адпіў**. Яго ўжо нідзе на работу не бяруць* (І.Капыловіч). — *Што ты робіш, старая порхаўка… Ужо зусім **мазгі адпіў**… — Лявон ухапіў Гаўрыленку за чупрыну і адцягнуў яго ад жанчыны* (Я.Галубовіч).

**Адплюшчваць (адплюшчыць) вочы.** *Разм. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці сукупнасці асоб.* Вызваляючыся ад памылковых поглядаў, пазнаваць сапраўдны сэнс чаго-н. [*Янка:*] *Мы як бы пачынаем ужо **адплюшчваць вочы** і паўставаць проці той паганай маны, што мы не ёсць мы* (Я.Купала). *Сцеханешся, **вочы адплюшчыш**, падумаеш міжволі: “Няўжо і праўда ўсё гэта было, перажыў, перабачыў ты гэта?”* (Б.Сачанка).

**Адпраўляць (адправіць) у штаб духоніна** *каго. Устар. Разм. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы.* Расстрэльваць. **Сін.:** выводзіць у расход *каго*; пускаць да бога *каго*; пускаць кулю ў лоб *каму*; пускаць на той свет *каго*; пускаць у царства нябеснае *каго;* ставіць да сценкі

*каго. – А як вы ставіцеся да Дзянікіна, Каледзіна?.. – Таксама, як і да Карнілава і Краснова. Вылюдкі!.. Усіх іх трэба было* ***адправіць у штаб Духоніна*** (І.Гурскі). *[Следчы:] Раскажыце, хто вас зацягнуў у гэтае балота? За гэта сурова караць вас не будуць, дадуць гады тры, і ўсё. А інакш вас могуць* ***у штаб Духоніна адправіць.*** *Зразумелі?* (П.Пруднікаў).

**<Ад> пустой (парожняй) бочкі затычка**. *Вык. Разм. Неадабр.* Няўмелы, няўдалы чалавек, з якім ніхто не лічыцца. *Быць* ***затычкай пустой бочкі*** *— сорам вольнай грамадзе!* (Я.Купала). *Ніколі не разумею, чаму людзей, няздатных да сур'ёзнай справы, недалёкіх (****ад парожняй бочкі затычка****!), так апякуюць райком, абком* (Маладосць. 1999. № 3*). — Бачыў, як Бузука паважаюць, — махае пугаю ветфельчар, — не* ***ад пустой бочкі затычка****. Напішы* [пра гэта]*! Толькі праўду пішы…* (В.Шырко).

**Адсейваць зерне ад паловы.** *Гл.* адвейваць (веяць, адсейваць) зерне ад паловы (мякіны).

**Адыходзіць (адысці) з гэтага свету**. *Разм. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы.* Паміраць. **Сін.**: аддаваць богу душу; аддаваць канцы (у 3 знач.); аддаваць духі; адкідваць капыты (у 1 знач.); адкідваць хвост (у 2 знач.); адпраўляцца да абрама на піва; адпраўляцца на той свет; адыходзіць у вечнасць (у 1 знач.); адыходзіць у іншы свет; адыходзіць у лепшы свет; выпроставаць ногі; выцягнуць ногі; даваць дуба; дух выпусціць (у 1 знач.); дух спускаць; духу не ўказаць; загавець душой; загадаць доўга жыць *каму* (у 1 знач.); задзіраць капыты (у 2 знач.); задзіраць ногі; замуж за <пана> пясоцкага збірацца (ісці); заснуць вечным сном; заснуць навекі; згарнуць рукі; з капылоў далоў (у 2 знач.); лажыцца ў магілу; пайсці ў магілу; пачыць у бозе; складваць рукі (у 2 знач.); сыходзіць са сцэны (у 4 знач.); трапіць да абрама на піва. *Мабыць, так яна* [Ганулька] *і* ***адышла з гэтага свету*** *пад жаласны спеў дачушкі* (В.Быкаў). *Бліжэй да канца, больш бяссэнсу? Нясмутна паміраць, няшкода* ***адысці з гэтага свету****… Нашто ты на ім?* (С.Яновіч).

**Адыходзіць (адысці) у лепшы свет; ісці (пайсці) у лепшы свет**. *Разм. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы.* Паміраць. **Сін**.: аддаваць богу душу; аддаваць канцы (у 3 знач.); аддаваць духі; адкідваць капыты (1 знач.); адкідваць хвост (у 2 знач.); адпраўляцца да абрама на піва; адпраўляцца на той свет; адыходзіць у вечнасць (у 1 знач.); адыходзіць з гэтага свету; адыходзіць у іншы свет; выпроставаць ногі; выцягнуць ногі; даваць дуба; дух выпусціць (у 1 знач.); дух спускаць; духу не ўказаць; загавець душой; загадаць доўга жыць *каму* (у 1 знач.); задзіраць капыты (у 2 знач.); задзіраць ногі; замуж за <пана>

пясоцкага збірацца (ісці); заснуць вечным сном; заснуць навекі; згарнуць рукі; з капытоў далоў (у 2 знач.); лажыцца ў магілу; пайсці ў магілу; пачыць у бозе; складваць рукі (у 2 знач.); сыходзіць са сцэны (у 4 знач.); трапіць да абрама на піва. ***Адышоў у лепшы свет*** *нікім не знаны і не прызнаны ні тут, у нас, на Беларусі, служэнню якой ахвяраваўся яшчэ ў юнацтве, ні ў Польшчы, дзе ў выніку абставін, трагічных выкрунтасаў гістарычных падзей вымушаны быў правесці другую палову свайго нялёгкага, складанага жыцця. Гаворка ідзе пра Яна Тарасевіча* (ЛіМ. 17.05.2002). *У нас* ***у лепшы свет ідзе*** *болей, чым нараджаецца. Ніхто не хоча мець лішніх клопатаў – і гадаваць другое ці трэцяе дзіця, спыняецца на адным* (У.Дамашэвіч). То *добра яшчэ, калі ўдваіх старыя засталіся, ёсць з кім словам перакінуцца. А калі адна, як Адарка? Дзядуля яе колькі гадоў ужо як спіць.* ***Пайшоў у лепшы свет****…* (П.Місько).

**Адыход (зыход) у іншы свет** *каго, чый. Мн. не ўжыв. Дзейн. і дап. Функц. не зам.* Смерць каго-н. *Спадзяюся, што нейкая частка гэтых здольнасцяў перайшла ў спадчыну да мяне, бо таемную бабуліну сілу я адчуваю і цяпер, праз сорак гадоў пасля яе* ***адыходу ў іншы свет*** (У.Арлоў). *Салаўіная захопленасць стала прычынай заўчаснага* ***зыходу*** *Ягайлы* ***ў іншы свет****. Бо і ў свае восемдзесят два гады ён не мог здрадзіць сабе і салаўям…* (А.Бутэвіч).

*Пачынаць (пачаць)* **ад яйца.** *Акал. Разм.* З самага пачатку. **Сін.:** ад печкі (печы); з азоў. *Я раскажу табе якую-небудзь займальную гісторыю... Напрыклад?.. Напрыклад, калі пачынаць* ***ад яйца****, паслухай, кім я марыў стаць у дзяцінстве* (У.Арлоў).

**<Аж> адскоквае ад зубоў** *у каго. Цяп., пр., буд. скл.; адз. і мн. Разм. Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета.* Выдатна, жвава і энергічна, з добрым веданнем справы расказваецца, вымаўляецца. *Кніжныя словы і фразы* ***ажно адскоквалі*** *ў яго* [Лічка] ***ад зубоў*** (У.Калеснік). *Харошыя ў мяне мальцы растуць… Што па-польску, што па-нашаму сякуць —* ***аж ад зубоў адскоквае*** (А.Петрашкевіч). *Я, ужо маючы сумны досвед і марачы атрымліваць стыпендыю, ведаў усе галоўныя задачы і фармулёўкі так, што яны* ***ад зубоў адскоквалі...*** (У. Арлоў). [*Лепешаў,* с. 16: ад зубоў адскоквае (адлятае) *у каго*].

**Ажаніцца з <сырою> зямлёй.** *Разм. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы.* Памерці, загінуць. **Сін.:** аддаваць богу душу; аддаваць канцы (у 3 знач.); адпраўляцца да абрама на піва; адпраўляцца на той свет; адыходзіць з гэтага свету; адыходзіць у вечнасць; адыходзіць у іншы свет; адыходзіць у лепшы свет; выпростваць ногі; даваць дуба; дух выпусціць (у 1 знач.); дух спускаць; духу не ўказаць; загавець душой;

загадаць доўга жыць (у 1 знач.); задзіраць капыты (у 2 знач.); задзіраць ногі; замуж за <пана> пясоцкага *збірацца*; заснуць вечным сном; заснуць навекі; згарнуць рукі; з капылоў далоў (у 2 знач.); лажыцца ў магілу; на паповы сані *збірацца*; пайсці ў магілу; пачыць у бозе; складваць рукі (у 2 знач.); сыходзіць са сцэны (у 4 знач.); трапіць да абрама на піва. *На імправізаваных насілках прыносяць забітага і кладуць перад буданом… [Дзед Бадыль]: Вось і* ***ажаніўся*** *ты, сынок,* ***з сырою зямелькаю*** (К.Крапіва). *Цікавая бабулька… Але што ж тут дзіўнага — той і жыве куды прыгажэй, хто ў такім узросце не думае* ***ажаніцца з зямлёй****, бачыць нейкую мэту ў жыцці* (В.Ткачоў).

**Азірацца назад.** *Гл.* аглядацца (азірацца) назад.

**Азяліць галаву** *каму, чыю. Разм. Неадабр. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы.* Страшэнна надакучыць чым-н. (гаворкай, просьбай і інш.). **Сін.**: адурыць галаву *каму*; дурыць галаву *каму* (у 2 знач.); надурыць галаву *каму* (у 2 знач.). *Дзед нічога не бачыць і не чуе. —* ***Азялілі галаву****! — злосна тузаецца ён усім целам. — Азялілі! Наста! Ці доўга ты яшчэ будзеш, га?!* (П.Палітыка). ***Азяліла*** *ты маю* ***галовушку****…* (Г.Юрчанка).

**Акалочваць (акалачваць) грушы <з вербаў>.** *Праст. Іран. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы.* Гультаяваць, займацца пустымі справамі. **Сін.**: абіваць бакі (у 2 знач.); адлежваць бакі (у 2 знач.); біць байды; біць бібікі; біць лынды (у 1 знач.); біць тылылы; валяць дурня (у 2 знач.); вераб'ям дулі паказваць; ганяць сабак <*па чым*>; корчыць гультая; лічыць варон (у 2 знач.); ляжаць на баку; пляваць у столь; сабакам сена касіць (у 1 знач.); сачка давіць. *Там яшчэ вучоны Свербаў* ***акалочваў грушы з вербаў****. Кажуць, скончыў быў той дзед ерундычны факультэт* (К.Крапіва). *Як член, каб* ***акалачваць грушы****, не чуў, што шэпчуць партнулі, яму развесістыя вушы партыйным воскам залілі* (Р.Барадулін).

**Алёша з батонамі.** *Часцей адз. Вык. Праст. Іран. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы.* Някемлівы, няўмелы чалавек, недарэка ці разявака. **Сін.:** асёл маляваны; без галавы; без клёпкі ў галаве; без цара ў галаве; галава <і> два вухі; галава садовая; галава яловая; дубовая галава; конь божы; курыная галава; куст альховы; медны лоб; мех з саломай; пень асінавы; пустая галава. **Ант.:** з галавой (у 1 знач.); з царом у галаве (у 1 знач.); светлая галава; у цемя не біты. – *І які ж гэта ў цябе сусед?.. – А, абы-што! – махае рукой Галена. – Каб было пра што казаць. Гэта ж* ***Алёша… з батонамі…*** (В.Супрунчук). *[Лепешаў,* с. 18; *Даніловіч,* с. 25.*]*

**Андрэй Кузьме родны Хвёдар (Хведар).** *Мн. не ўжыв. Часцей вык. Разм. Неадабр.* Той, хто важнічае, хваліцца блізкасцю ці

сваяцтвам з нераўнёй. *Ну як, пакуражыўся? І з гулёвай сваёй развітаўся? Родную душу знайшоў.* ***Андрэй Кузьме родны Хвёдар*** (У.Караткевіч). [Малы] *расце сабе, у вус не дзьме, наказ шануе дзеда: на Случчыне* ***Андрэй Кузьме*** *— заўсёды* ***родны Хведар*** (В.Вітка).

**Арду драць.** *Разм. Іран. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы.* Сварыцца, спрачацца. *Брат з братам* ***арду дзяруць*** *за мяжу* (Р.Барадулін). [Параўн. у *Юрчанкі*, 1, с. 46: арду ўзнімаць — ‘пачынаць крык, сварку, лаянку’.]

**Архіпелаг ГУЛАГ.** *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам. Неадабр.* Канцэнтрацыйныя лагеры ў перыяд сталінскага таталітарызму. *Цяпер, калі прачытаў “Споведзь”, якую Генію́ш пісала з пэўнай магчымасцю зноў наведаць “****архіпелаг ГУЛАГ****”, зразумеў, што чуў частку нашае гісторыі з першых вуснаў* (Р.Барадулін). *З ярлыкамі “ворагаў народа”, “нацдэмаў”, “здраднікаў радзімы” “іншадумцаў” і г.д. яны па волі “руководящей и направляющей силы” ўтварылі жудасны на планеце* ***архіпелаг ГУЛАГ*** (А.Мяснікоў). *Малады паэт атрымаў дзесяць гадоў зняволення, быў адпраўлены ў найжорсткую пашчу* ***архіпелага Гулага****, адкуль змог выбавіцца толькі ў пяцідзесятых гадах, у час “хрушчоўскай адлігі”* (А.Лойка).

**Асёл маляваны**. *Адз. і мн. Вык. Разм. Неадабр.* Тупы, неразумны чалавек. **Сін.**: Алёша з батонамі; без галавы; без клёпкі ў галаве; без цара ў галаве; галава <і> два вухі; галава садовая; галава яловая; дубовая галава; конь божы; курыная галава; куст альховы; медны лоб; мех з саломай; пень асінавы; пустая галава. **Ант.**: з галавой (у 1 знач.); з царом у галаве (1 знач.); светлая галава; у цемя не біты. *На іхніх хлопцаў гаварылі “****аслы маляваныя****”* (Ф.Янкоўскі). *Дурні!* ***Аслы маляваныя****! Пасядзець бы паболей побач з дзядзькам Піліпам, навучыцца б плесці з лазы “фірмовыя” кошыкі* (Я.Рагін). — ***Асёл маляваны****! — крычыць радасна дурнаваты стрыечны дзядзька, сустракаючы мяне на шырокай і адзінай купрэеўскай вуліцы* (ЛіМ. 9.07.1999). *А жыў ён* [Васіль] *як чалавек, пры сям’і. У сваім калгасе не* ***аслом маляваным*** *быў, а пры дзеле — ветэрынарам працаваў* (М.Гроднеў).

**Астудзіць гарачую галаву.** *Разм. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы.* Угаманіць, суняць, суцішыць каго-н. залішне нястрыманага, запальчывага, неразважлівага. *Дырэктар Хардзін думаў, што арышт двух дактароў, якія былі кіраўнікамі,* ***астудзіць*** *другія* ***гарачыя галовы****, што ў бальніцы, нарэшце, пацішэе* (Л.Арабей). *Вялікі князь загадаў трубіць у трубы,* ***астудзіць гарачыя галовы*** *і вярнуць іх назад, бо некаторыя гатовы былі імчацца на край свету, каб вынішчыць усе палавецкія улусы* (Л.Дайнека).

**А ўсё ж такі яна рухаецца!** *Выкл. Функц. не зам.* Вокліч цвёрдай упэўненасці ў слушнасці свайго выказвання. *Не будзе нам страшны гэты паганы над намі торг нашых нязваных і няспланых апекуноў. Ужо цяпер мы можам смела сказаць ім..: "**А ўсё ж такі яна рухаецца**!", г.зн. а ўсё ж такі мы жывём і будзем жыць!* (Я.Купала).

**Б**

**Бабкі падбіваюцца (падбіваліся).** *У безас. ужыв. Разм.* Падсумоўваецца зробленае, падводзяцца вынікі. **Сін.:** рыса падводзіцца *над чым. У канцы месяца **падбіваліся бабкі**, і ў таго, хто набраў большы каэфіцыент за сваю працу, была большая зарплата, адпаведна і прэміяльныя* (І.Капыловіч).

**Бакі пападрываць.** *Гл.* бокі <бакі> пападрываць.

**Баль у часе чумы.** *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам. Неадабр.* Вясёлае, бестурботнае існаванне каго-н. у бядотную для іншых часіну. **Сін.**: валтасараў баль. *Усё гэта святкаванне юбілейнай перамогі.. нагадвае класічны **баль у часе чумы*** (В.Быкаў). *Глядзіш па тэлебачанні на знаёмыя сыценькія твары і думаеш: **баль у часе чумы**!* (Нар. воля. 24.01.1998). *Сыдуць прэч быццё быдлячае, дзікі **баль у час чумы**... І прачнуцца душы спячыя: "Божа, глянь! А гэта ж — мы!"* (С.Законнікаў).

**Без гальштукаў**. *Разм.* **1.** *Азн.* Нефармальная, у неафіцыйных абставінах (сустрэча). *Рашэнне аб правядзенні першай у гісторыі СНД так званай "сустрэчы **без гальштукаў**" было прынята ў Маскве 21 чэрвеня падчас пасяджэння Савета кіраўнікоў дзяржаў Садружнасці* (Нар. воля. 11.07.2000). *Мы ўжо настолькі звыкліся з неафіцыйнымі, **"без гальштукаў"** сустрэчамі лідэраў СНД, што адносімся да іх часам, як да снегападу за акном ці чарговага галалёду пасля студзеньскай адлігі* (А.Сіліч).

**2.** *Акал.* У неафіцыйных абставінах (сустракацца). *Чаму прэзідэнты іншых краін не асабліва любяць хакей? Выдатная была б і для іх магчымасць сустрэцца са сваім калегам. **Без гальштукаў**, але пры гледачах. Пра жыццё пагаварыць, справы абмазгаваць* (У.Даўжэнка).

**Без дурняў.** *Акал. Праст.* Зусім сур'ёзна, не падманваючы (рабіць, гаварыць і пад.). **Сін.**: без жартаў. *Захацеў селянін, фермер купіць трактар, камбайн, сеялку, плугі — прадай хлеб, выручы грошы і на іх купляй сабе ўсё, што трэба табе для работы і развіцця. Усё, як кажуць, па-чэснаму, **без дурняў*** (В.Гроднікаў). *— Дык як жа будзем будаваць камунізм?.. — **Без дурняў**!* (А.Макаёнак). *— Забавы*

*— рухавік прагрэсу… Сапраўды? —* ***Без дурняў.*** *Што крычаў плебас у Старажытным Рыме? Хлеба і забаў. Гэта базавыя каштоўнасці, арыенціры* (Маладосць. 2003. № 4).

*Піць* **без пальцаў.** *Акал. Разм. Іран.* З ахвотай і шмат, не адмаўляючыся (піць спіртное). *Старшыня сельсавета, як і належала на такой пасадзе, піў* ***без пальцаў****. (Звычайна, калі цяля адсаджваюць ад каровы, на першых часінах у пойла кладуць пальцы, і паёнік прывыкае піць.)* (Р.Барадулін).

**Без роду і <без> плоду.** *Акал. Разм.* У поўнай адзіноце, без родных (жыць). *Якаў Лукіч жыў адзінока –* ***без роду і без плоду****, як кажуць* (В.Карамазаў). *Сенька адзін,* ***без роду і плоду****.. жыве на краі вёскі ў старой хаціне* (В.Кадзетава).

**Без руля (стырна) і <без> ветразяў**. *Функц. не зам.* **1.** *Акал.* Без акрэсленага накірунку (жыць, рухацца і пад.). *Рэшткам разгубленых народнікаў і нарадавольцаў, а таксама радыкалам і ліબералам, якіх кідала ў розныя бакі “****без руля і ветразяў****”, быў паказан новы шлях* (А.Белякоў). *З таго часу, як у школе выявілі ў сына здольнасці дэкламатара, а ў Ірачкі харэаграфічныя задаткі, дык ты, напэўна, не паверыш, я зусім страціў руль кіравання. Разумееш? Сямейны карабель паплыў, як кажуць,* ***без руля і без ветразяў*** (М.Чавускі).

**2.** *Азн.* Без яснай, дакладнай жыццёвай мэты. *А бэсэсэраўская рускамоўная “Звезда” таго часу пераконвала ў іншым: “…віленскія беларускія нацыяналісты, гэтыя балбатуны і пустамолы, гэтыя людзі* ***без стырна і без ветразяў****.. пабрыдуць за панам Алексюком”* (А.Пашкевіч).

**Без стырна і <без> ветразяў**. *Гл.* без руля (стырна) і <без> ветразяў.

**Біццё бібікаў**. *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Разм. Неадабр.* Гультайства, бяздзейнасць. *Алесь Лявонавіч, відаць, з цікавасці да магчымага сюжэта, а я проста ад працяглага* ***біцця бібікаў*** *выказалі пажаданне азнаёміцца з статутам і мэтамі казацкае вольніцы* (М.Скобла).

**Біць пад дых** *каго. Разм. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы.* Раптоўна ашаламляць якім-н. паведамленнем, дзеяннем, учынкам. — *А вось кніга Бугаёва “Чалавечнасць”. У ёй не знойдзеш класавага падыходу да аналізу літаратурнага жыцця, —* ***б'е*** *нас* ***пад дых*** *Зяньковіч. — Так і ў іншых выданнях* (М.Дубянецкі). *Афіцэр у адстаўцы, мужчына гадоў пад сорак пяць, пачуўшы, што я выпісваю “Народную волю”,* ***б’е*** *мяне, як кажуць,* ***пад дых****: – Всё понятно,*

*газета эта бэнээфовская, а вы, чувствуется, разделяете ее взгляды* (М.Кутнявіцкі).

**Бляха-муха**. *Выкл. Праст. Неадабр.* Вокліч незадаволенасці, абурэння, прыкрасці і пад. **Сін.**: авохці мне; ёлкі зялёныя; ёлкі-маталкі; ёлкі-палкі; фу ты <ну ты>; халера ясная; цьфу ты <чорт>; чорт бы яго ўзяў; чорт вазьмі; чорт ведае што такое. *Да мяне прыбіўся: "Слухай, не кідай, дапамажы..." Дапамог бы, **бляха-муха**, толькі чым і як, скажы?* (У.Някляеў). *Хлопец пяцярнёй узяўся за яго* [перавернуты крыж]. *— Ой, **бляха-муха**! — вылаяўся ён уголас* (А.Казлоў). *Запалкі, як адна, не загараюцца.* [Лысы] *нервуецца. Злуецца: — Ды, чорт!.. **Бляха-муха**! Калі ўжо навучацца?! Рукі б ім, гадам!.. Бракаробы!..* (В.Ткачоў).

**Богава (хрыстова) нявеста.** *Адз. і мн. У ролі розных чл. сказа. Разм.* Манашка. *І часам, ходзячы каля Дзвіны або седзячы ля акенца сваёй святліцы, Кацера нешта напявала невядомае самой сабе, нешта шаптала. Тады чаляднікі казалі: "Зноў наша баярышня моліцца Хрысту. Пэўна, адна ёй дарога — манастыр. Быць ёй **богавай нявестай**"* (Л.Дайнека).

**Богам праклятьı**. *Азн. Разм. Ужыв. пры наз. са знач. канкр. ці абстр. прадмета.* Занядбалы, пакінуты на волю лёсу. **Сін.**: богам забыты (у 1 знач.). *Ніхто ніколі не памянуў яго добрым словам, так ён насаліў тут за тыя некалькі гадоў, што ажыццяўляў класавую барацьбу і рэпрэсіі ў іхнім **Богам праклятым** раёне* (В.Быкаў). *— Хто не баіцца **праклятага богам** месца? — Слабыя* (М.Трухан).

**Бога няма** *на каго. У безас. ужыв. Разм. Неадабр.* Хто-н. варты асуджэння за несумленны ўчынак. *— Пастанавілі Гужа раскулачыць... Як сабатажніка і што наёмная сіла... — **Бога** на вас **няма**! — уздыхнуў Пятрок. — Раскулачыць. Наёмная сіла. У таго ж старшыні Лявона таксама была наёмная сіла. Як малацілі... Во, Ладзіміравы мальцы памагалі... Дык і яго раскулачыць?* (В.Быкаў). *— Не пужайце свінню, злыдні, **бога** на вас **няма**. Апаросіцца, спаганіць Вялікдзень, — усплёсквала рукамі, крычала з ганка хаты старая, пэўна, гаспадыня свінні* (В.Казько).

**Бог жыве** *дзе. У безас. ужыв. Разм.* Дзе-н. вельмі хараша, усё добра. **Сін.**: бог начуе *дзе. — Тут у вас **бог жыве**, — казаў Марка* [наконт] *таго, што поле на пасёлку вельмі ж блізка: на ганку стаўшы, можна з самае дальшае нівы палудняваць у хату клікнуць. — Я кажу адно, што вельмі ж харашо ў вас* (Л.Калюга). *І пра тое кожны пяе салавей росным кветкам у роднай траве: "На Беларусі **Бог жыве**", — і няхай давеку жыве* (У.Караткевіч). *"На Беларускі **Бог жыве**". І верыць хочацца нязменна, калі яна такой слыве, і ёй жыць*

*вечна, блаславеннай* (Ю.Свірка). *У хаце ў нас **Бог жыве**, а на вуліцы такая юга — свету белага не відаць* (Р.Барадулін).

**Бог начуе** *дзе. У безас. ужыв. Разм.* Дзе-н. вельмі хараша, усё добра, удачна. **Сін.**: бог жыве *дзе. Вялікім дабром стала гарантаваная аплата. Але ўсё роўна сяло, зямля не прываблівае, уцякаюць людзі, хоць у Беларусі яшчэ, як кажуць, **бог начуе*** (І.Шамякін). — *Хочаце, каб дачка была здаровая, шукайце месца і з'язджайце. — А навошта нам шукаць… Лёня ж, стрыечнік мой, у Віцебску жыве. Няўжо не дапаможа* [схаваць дачку ад радыяцыі]? — *Шаноўныя бацькі! — засердавала доктарка. — Вы, можа, думаеце, што ў Віцебску дваццаць шостага красавіка восемдзесят шостага года **Бог начаваў**?* (В.Кадзетава).

**Бог сведка.** *Выкл. Разм.* Праўда, далібог. Ужыв. для пацвярджэння чаго-н., запэўнення ў праўдзівасці чаго-н. **Сін.:** бачыць бог; ісцінны бог; слова гонару; чэснае слова; як бог свят (у 2 знач.). *Мы з Элі пазнаёміліся да таго, як Фані разбіў паляруш. Сустракаліся ўпотай. Фані мы нічога не казалі, бо шкадавалі яе… **Бог сведка**, я быў цярплівы ўвесь гэты час, але ж колькі можна цярпець!* (Ф.Сіўко). ***Бог сведка**: з "векапомнай" даты, як прэзідэнт у крэсла сеў, я быў сумленны памагаты, і гараваў з ім і лысеў* (Р.Тармола-Мірскі).

**Бог** *каму* **суддзя**. *У безас. ужыв. Разм. Неадабр.* **1.** Хто-н. паплаціцца за свае нядобрыя справы. — *А хто не згаджаецца з гэтаю пастановаю? — Я!.. — Ну і **бог** табе **суддзя**… Ты зусім не нашай вёскі чалавек, ты нейкі вырадак нашай прыгожай працоўнай сям'і…* (М.Чарот). *Потым партыйны лідэр паціхеньку перабраўся ў Белакаменную, па-здрадніцку здаў краіну, народ. Але **Бог** яму **суддзя**…* (У.Гойтан).

**2.** Няхай гэта будзе на чыім-н. сумленні як яго маральная адказнасць за нядобры ўчынак. *Той самы крытык пра ягоную паэму пісаў некалі зусім іншае… Ну, дык **Бог** яму **суддзя**…* (Л.Арабей). *Відаць, старая тайная віна табе душу збалелую сціскае. Ды **Бог** табе **суддзя*** (Г.Бураўкін*). Яе маці захварэе, дык я і ў бальніцу, і ў аптэкі. А мая быццам і не маці. Ну, ды ладна. **Бог** ёй **суддзя*** (А.Вdespite арановіч).

**Бокі (бакі) пападрываць.** *Разм. Ужыв. пры дзейн. са знач. сукупнасці асоб.* Вельмі моцна і доўга, да знямогі папасмяяцца (пра ўсіх, многіх). *Тут непадалёку калгаснікі касяць, а яны* [Яўхім і Рыгор] *і дзень і другі — усё мяжу адброджваюць. **Бокі** тады суседзі **пападрывалі**, на іх гледзячы* (К.Чорны).

**Браты нашы меншыя.** *Адз. не ўжыв. Часцей у ролі дап. Функц. не зам.* Звяры (свойскія ці прыручаныя чалавекам). *Клапатлівыя*

*адносіны да прыроды, да “**братоў нашых меншых**” у немцаў традыцыйныя* (С.Законнікаў). *Звяры літаральна гібеюць у вузкіх клетках* [заапарка]*… Хацелася б, аднак, каб знайшліся ўсё ж грошы, каб аблегчыць лёс **братоў нашых меншых**, якім з прыхамаці чалавека ўсё жыццё наканавана правесці за кратамі* (С.Астраўцоў*). Мы наведалі заапарк.., паназіралі за жыццём “**братоў нашых меншых**”* (Настаўн. газ. 8.08.1998).

**Браць (узяць) уцям** *што. Разм. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы.* Разумець, усведамляць што-н. **Сін.:** браць на розум *што*; узяць <сабе> у толк *што. – Аднаго не **вазьму ўцям**: на якую трасу спатрэбілася заварваць гэту кашу, на вясну гледзячы? – нібы прачытаў яго думкі Кунцэвіч* (В.Блакіт). *Я вось сяджу, думаю – і ніяк не магу **ўзяць уцям**, што вы з ім не падзялілі?* (Маладосць. 1980. № 4).

**Брыльянтавае вяселле**. *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Разм.* Сямідзесяціпяцігадовы юбілей сямейнага жыцця. *Па-свойму адметнай і радаснай падзеяй не толькі для жыхароў вёскі Бондары стала **брыльянтавае вяселле** Алены Канстанцінаўны і Мікалая Мікалаевіча Паляковых* (Нар. воля. 19.08.2000).

**Бурыданаў асёл.** *Звычайна адз. Часцей вык. Кніжн. Неадабр. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы.* Крайне нерашучы чалавек, які хістаецца, вагаецца ў выбары паміж двума раўнацэннымі рашэннямі ці раўназначнымі жаданнямі. *[Кардонскі:] Я зусім у органы не збіраўся, мяне накіраваў райком камсамола. Бо сам як **бурыданаў асёл**… Стаяў на раздарожжы, не ведаючы, што выбраць: ці дарагую мне гісторыю, ці такую ж літаратуру, ці журналістыку* (С.Дубавец).

**Бы Ленін на буржуазію**. *Гл.* як (быццам, бы) Ленін на буржуазію.

**Бы на кані праехаць**. *Гл.* як (бы) на кані праехаць.

**Быў ды сплыў.** *Разм. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы.* Адсутнічае, пайшоў ці з’ехаў куды-н. — *Дык жа ў нас на Тураўшчыне ёсць свой чалавек, Янка Мялешка, дэлегат беларускага кангрэса. Ён нам пасадзейнічае ў гэтай справе. — **Быў ды сплыў**, – выпаліў Кастроўскі. — Янка Мялешка стаў праваю рукою Саўкі Касача. Ух, разбойнікі!* (І.Гурскі). *— А дзе… містэр Крафт? — **Быў ды сплыў**, — неахвотна падняў галаву Судзір… — Праўда, заўтра яшчэ зможаш яго пабачыць* (П.Місько). *[Перагуд:] А харошая была дзяўчына. [Наталля:] **Была ды сплыла**… Так вам і трэба. [Перагуд:] Чаму? [Наталля:] Таму, што расцяпа. За харошае змагацца трэба* (К.Крапіва). *[Параўн. ва ўкр. м.:* був та загув.]

**Быццам Ленін на буржуазію**. *Гл.* як (быццам, бы) Ленін на буржуазію.

**Быццам тапелец за саломінку.** *Гл.* як (быццам) тапелец за саломінку.

**Бы шчыгрынавая скура**. *Гл.* як (бы) шчыгрынавая скура.

**В**

**Вагавая катэгорыя**. *Адз. і мн. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам.* Уплывова-ацэначная вартасць, велічыня каго- ці чаго-н. *З'езд мае быць больш прадстаўнічым, мець іншую **вагавую катэгорыю**, іншы рэзананс і ўплыў, чым з'езд сіл дэмакратычнага кшталту* (В.Якавенка). *Выбачай, Броўка і Пісарык, пры ўсім скептыцызме да першага, усё-такі розныя **вагавыя катэгорыі*** (Л.Рублеўская). *Толькі вельмі розныя **вагавыя катэгорыі** маюць яны — вясковая жанчына з яе патрыярхальнымі ўяўленнямі і механічна-магутны прагматычны цывілізаваны свет, які забраў сына* (А.Пяткевіч).

**Вада на млын** *каго, чый. Мн. не ўжыв. Часцей вык. Разм.* Дапамога, садзейнічанне каму-н. *Генерал-губернатар.. не мог адважыцца даць пазваленне памаліцца за душу палітычнага ссыльнага. Усё гэта было толькі **вада на млын** моладзі. Набожная Масква загудзела: бязбожнікі студэнты хочуць ісці ў царкву спраўляць паніхіду (па кім — добра не разбіраліся), а начальства не пушчае. Што за ліха?!* (Ядвігін Ш.). *Актыўны быў толькі Ермачэнка, болей нават, чымсьці належала, але яго актыўная дзейнасць была выразная — не **на** наш **млын вада*** (Л.Геніюш).

**Вадзіць казу**. *Разм. Неадабр. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы.* **1.** Хадзіць гуртам у стане ап’янення. [Грачоў гаворыць тром п’яным калгаснікам, якія ідуць абняўшыся:] *Што вы сабе думаеце, хлопцы! Пасяўная не за гарамі, а вы ў рабочы дзень **казу водзіце** па сяле* (А.Макаёнак). *У Андрэя, халасцяка, яны рэзаліся ў “пульку” ... А пасля “пулькі” **вадзілі казу**: ад Андрэя да Пайла, ад Пайла да Максіма. І жонкі, гасцінныя, любілі, калі мужы бралі за губу дома (*Крыніца. 1998. № 1).

**2.** П'янстваваць, напівацца. **Сін.**: бачыць шклянога бога; браць у губу; глядзець у бутэльку; закідваць за гальштук; закідваць за каўнер; закладваць за каўнер; залівацъ вочы <*чым*> (у 1 знач.); заліваць за каўнер; заліваць чарвяка; мокнуць у гарэлцы; наліць горла; наступаць на корак; не прасыхаць; панюхаць корак; прамачыць горла. **Ант.**: не браць у рот *што, чаго* (у 2 знач.). ***“Вадзілі казу”** беларускія творцы і да вайны, натхніцелямі былі такія “геніі”, як Алесь Кучар, і ён жа даносіў на п'яную “свабодалюбівую” балбатню сваіх калег, і некаторыя з іх паплаціліся за гэта жыццямі ці доўгай катаргай*

(І.Шамякін). *Сцяпан Майхровіч з Міхасём Машарам і іншымі аўтарамі* ***“вадзіў казу”*** (ЛіМ. 11.10.2002).

**Валасатая рука**. *Разм. Неадабр.* **1.** *Часцей адз. У ролі розных чл. ск.* Актыўнае садзейнічанне, аказанне пратэкцыі; блат. *У аспірантуру* [Краснянскі] *прыйшоў не з камсамола і, здаецца, без* ***валасатай рукі*** (В.Быкаў). *Слабое мліва з языка, хай дэмакрытык лахае. Ды* ***валасатая рука*** *— апора партамафіі* (Р.Барадулін). *Мікола напісаў мне з болем, што “ўсюды* ***валасатыя рукі*** *робяць сёння надвор'е, таму сумна і балюча назіраць за ўсім гэтым”* (В.Ткачоў).

**2.** *у каго дзе. У безас. ужыв.* Хто-н. мае заступніка, які можа пасадзейнічаць, аказаць падтрымку. **Сін.**: свая рука *ў каго дзе. У яго ў раёне і* ***валасатая рука*** *ёсць: брат намесніка старшыні райвыканкама працуе* (Я.Галубовіч). *Хіба такую школу не праходзяць усе пачаткоўцы, у каго ў свой час пры размеркаванні не было* ***валасатай рукі****?* (С.Бязлепкіна). *Каб хоць крыху застрахавацца ад такіх пагроз, давялося нават схлусіць, пусціць чутку, што ў мяне ў ЦК КПСС ёсць* ***валасатая рука*** (С.Законнікаў).

**Валоданне пяром.** *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам.* Уменне свабодна і выразна выказваць свае думкі на паперы. *Гэта вельмі непрыемна і прымушае яшчэ раз напамінаць аб неабходнасці дасканальнага* ***валодання пяром*** (Я.Колас).

**Валоданне словам.** *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам.* Здольнасць выразна, красамоўна гаварыць, пісаць. **Сін.:** дар слова (у 2 знач.). *Творчую адоранасць Мікола Раманоўскі выявіў у Цімкавіцкім двухкласным вучылішчы, а пазней і ў гады вучобы ў Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі. Яго хвалілі за добрае* ***валоданне словам*** (А.Бельскі). *Некалі Максім Горкі настойліва заклікаў маладых вучыцца майстэрству* ***валодання словам*** *у народа — у яго вусна-паэтычнай творчасці* (Н.Гілевіч).

**Валтасараў баль**. *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Кніжн. Неадабр.* Вясёлае, легкадумнае існаванне каго-н. у бядотную для іншых часіну. **Сін.**: баль у часе чумы. *Робіцца гэта ўсё ў дагоду і па камандзе тых сіл, якія сёння ладзяць* ***валтасараў баль*** *на Беларусі* (М.Скобла).

**Варона з кала зваліцца (валіцца)** *<дзе>. У безас. ужыв. Разм.* Вельмі горача, спякотна (на вуліцы, на двары). *Ужо так пячэць,* ***варона з кала зваліцца*** (Р.Барадулін). *Бывае, што сонца гуляе раніцай. Такая здараецца гарачыня,* ***варона валіцца з кала*** (С.Лобач). [*Лепешаў*, с. 21: варона з кала валіцца <дзе>.]

**Варушыць поршнямі.** *Праст. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы.* Хутчэй ісці, рухацца. Часцей ужыв. у форме заг. л. як пабуджэнне да

дзеяння. *На чарнявага, чыстага, пры касцюмчыку, сутулавата-рослага хлопца, што быў запярэчыў ім, медзведзяваты, густа кучаравы здаравіла, прыплюшчыўшы мройна-сонныя валошкавыя вочы, пагрозліва замахаў сцятым кулаком: – Ідзі-ідзі,* ***варушы поршнямі****!* (В.Адамчык). [У форме *шевелити поршнями* сустракаецца ў некаторых украінскіх гаворках; гл.: *Ужченко В., Ужченко Д.* Фразеологічний словник. – Луганск. 2002. С. 191].

**Ваўком завыць.** *Гл.* воўкам (ваўком) завыць.

**Ваша бярэ (узяло, узяла, возьме).** *У знач. асаб. ск. Разм.* Вы перамагаеце; выходзіць што-н. па-вашаму. Выказванне прызнання чыёй-н. перамогі. *Што ж?* ***Ваша ўзяло****? Нікуды не дзенешся!* (Ф.Янкоўскі). *Сваіх людзей падсаджваў, сваіх суседзяў... Мяне, Мішу... Падсаджваў... Думаў, што* ***ваша ўзяла*** (А.Кудравец). ***Ваша ўзяла****!.. Пра ўсё раскажу, толькі да забойства Кузаўкова я ніякіх адносін не маю* (В.Праўдзін). *— А ўсё ж* ***ваша возьме****, — сцвярджае стары рабочы. — Куранят лічаць увосень, — не здаваўся чыгуначнік* (І.Гурскі).

**Ветрам надзьмула** *каму. У безас. ужыв. Разм. Іран.* Якая-н. жанчына зацяжарала без мужа ці нарадзіла пазашлюбнага дзіця. *А бывае вецер у галаве: і сезонны, і круглы год... І напарнік ягоны, на якога звычайна зварочваюць грахі і непажаданыя вынікі кахання: кажуць, у такіх выпадках, —* ***ветрам надзьмула****...* (В.Зуёнак).

**Веяць зерне ад паловы (мякіны)**. *Гл.* адвейваць (веяць, адсейваць) зерне ад паловы (мякіны).

**Восьмы цуд свету**. *Мн. не ўжыв. Часцей вык. Функц. не зам.* Штосьці дзіўнае, велічнае, незвычайнае. **Сін.:** тысяча і адна ноч. *Я шмат чытаў для свайго ўзросту, гэта былі радкі накшталт радкоў нямецкага паэта Мюллера... І раптам: “Ці завылі ваўкі, ці заенчыў віхор, ці запеў салавей, ці загагала гусь, — я тут бачу свой край, поле, рэчку і бор, сваю матку-зямлю — Беларусь”. Гэта было дзіва.* ***Восьм****ы — а для мяне першы —* ***цуд свету****. А потым былі “Магіла льва”, “Бандароўна”, — і змяніўся свет. Назаўжды* (У.Караткевіч). *І вось у беднай краіне пачынаецца будаванне прызначанага здзівіць увесь свет хрустальнага палаца,* ***восьмага цуду свету*** (С.Букчын). *Калі і ёсць у нас нейкі варты самага шчырага здзіўлення і захаплення “кантэкст”, дык менавіта наш* ***“восьмы цуд свету”****, наша літаратура, якой адкрыта зайздросцілі самыя аўтарытэтныя знаўцы многіх народаў...* (Г.Шупенька).

**Воўкам (ваўком) завыць.** *Разм. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы.* Пачаць горка скардзіцца на якія-н. нягоды, пакуты. *Ты кажаш, сумна ў адзіноце... Як каму... Няма чаго рабіць, няма да чаго*

*шчырага інтарэсу — вядома, сумна,* ***воўкам завыеш*** (Т.Хадкевіч). *Ты ведаеш, што значыць пражыць тут, у лесе, год, другі чалавеку, які быў жанаты — а хоць бы і не быў, — без жанчыны, без дзяўчыны?* ***Воўкам завыеш****, і свет белы стане не мілы* (У.Дамашэвіч).

**Выбыццё са строю** *чыё, каго. Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам.* Страта магчымасці працаваць, дзейнічаць. [Нявідны] *думае аб тым, у якой ступені* ***выбыццё*** *яго* ***са строю*** *работы адаб'ецца на самой рабоце* (Я.Колас).

**Выводзіцца на арбіту.** *Функц. не зам. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета.* Станавіцца вядомым. *Мы тут гаворым пра больш сур'ёзнае: пра той агульны арыенцір у сучаснай літаратуры, па якім* ***выводзяцца на арбіту*** *ўсё новыя эпапеі аб Вялікай Айчыннай вайне* (А.Адамовіч).

**Выкідвацца за борт**. *Функц. не зам. Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета.* Адхіляцца як непатрэбнае, непрыдатнае. *Цяпер жа, калі адроджаная беларуская гісторыя* ***выкідваецца за борт****, калі ўсё вяртаецца на кругі свае, ход развіцця шмат якіх падзей зноў падаецца неаб'ектыўна і тэндэнцыйна, у духу бальшавіцкіх ідэй…* (Г.Лагуновіч).

**Выкладаць (выкласці) бакі.** *Разм. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы.* Есці што-н. апетытнае, смачнае. *З такой шляхтай і чарку можна ўзяць, і абняцца, і песню праспяваць. А бывае, добра* ***выклаўшы бакі****,і паваляцца разам пад плотам* (А.Наварыч). [*Лепешаў*, с. 23: выкладаць бакі (бокі); *Даніловіч*, с. 30: бокі выкласці (вылажыць) — 'уволю наесціся'.]

**Вынаходніцтва веласіпеда.** *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам. Гумар.* Абвяшчэнне чаго-н. даўно вядомага ўсім у якасці нібыта новага. *Пра галоўны крытэрый,* ***вынаходніцтва веласіпеда*** *і кодэкс гонару настаўніка* (Загаловак артыкула ў “Настаўн. газ.” за 22.03.2001 г.).

*Каго, што* **выносіць (вынесці) за дужкі** *чаго. Функц. не зам. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці сукупнасці асоб.* Не лічыць каго- ці што-н. састаўной часткай чаго-н., прадметам увагі, аналізу і пад. *Амаль палова здабытчыкаў беларускай літаратуры была як бы* ***вынесена за дужкі*** *нацыянальнай культуры* (В.Быкаў). *Калі пачнецца перагаворны працэс з уладамі, пытанне легітымнасці ўлады неабходна* ***вынесці за дужкі*** *бягучага палітычнага моманту* (Нар. воля. 18.10.2001).

**Выпіць <горкую> чашу да дна.** *Кніжн. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы.* Шмат выцерпець, выпакутаваць, перанесці якія-н. цяжкасці. *Нашы дзеці пакінулі быць дзецьмі* [у часы вайны]. *Яны* ***да***

***дна выпілі чашу*** *страшнай горычы ў самыя шчаслівыя свае годы* (К.Чорны). *А ў маці ад гэтага ляманту як адарвалася сэрца. Відаць, ёй давядзецца* ***выпіць чашу да дна****. Яна ўскрыкнула і ў роспачы закрыла твар рукамі* (Я.Шарахоўскі). *Да канца мы гатовы з вамі* ***выпіць горкую чашу*** *пакут* (А.Бачыла).

**Выпростваць (выпрастаць) спіну.** *Разм. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці сукупнасці асоб.* Пазбаўляючыся пасіўнасці, абыякавасці, пачынаць дзейнічаць на поўную сілу сваіх здольнасцей, магчымасцей. **Сін.:** распраўляць крылы; распраўляць плечы. *Пад сатрапаўскім ціскам мяккіх ічыгаў Сталіна, якія з замілаваннем апяваліся ў многіх мастацкіх творах, не толькі нашаму народу цяжка было* ***выпрастаць спіну*** (С.Законнікаў). *Інтэлігенцыя павінна нарэшце схамянуцца,* ***выпрастаць спіну*** *і сказаць сваё слова* (Я.Стасевіч).

**Выпусканне пары**. *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Разм.* Нядоўгае, узбуджанае, але супакойлівае рэагаванне на што-н. *Неяк у "Народнай газеце" з мэтай* ***выпускання пары*** *былі дадзены ацяркушкі з партыйнага архіва* (Р.Барадулін). *Трэба перастаць спадзявацца, што пазачарговы з'езд неяк дапаможа.* ***Выпусканне пары*** *– рэч неканструктыўная ў тых умовах, што складаліся* (Г.Каржанеўская).

**Выпускаць (выпусціць) пару**. *Разм. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы.* Узбуджана, як выбух раздражнення, рэагаваць на што-н. і пасля супакойвацца. *Гаворым, крычым — "****выпускаем пару****", плачам ужо не слязьмі — крывёю, а "Васька слушает да ест"* (Б.Сачанка). *Качан не ўмешвайся, чакаў, калі скончацца сямейныя разборкі і Макрыцкі "****выпусціць пару****"* (В.Праўдзін). *Учэпістыя хлопчыкі панура зніклі, і Дзімка падышоў да мяне. Самы раз было* ***выпусціць пару****: — Малайчына! Дзе цябе носіць?.. — Не крычы, тут я ўсё ж начальнік* (Л.Маракоў). *І кулак пад "дружны бязлітасна-глумлівы рогат" таго натоўпу* ***выпускае пару*** *— душыць у сабе "звярыную злосць". "Пакорна схіліўшы галаву", ён ідзе "адмыкаць свае адрыны і свірны". Так нібыта "люты звер" ператвараецца ў ціхмянае ягня…* (Дз.Бугаёў).

**Выхад з-пад пяра.** *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл.ск. Функц. не зам.* Напісанне, стварэнне кім-н. (літаратурнага твора). *Масаваму чытачу, мабыць, і не сніўся такі падарунак… Амаль праз трыццаць гадоў пасля* ***выхаду з-пад пяра*** *твор* ["Сказ пра Лысую гару"] *выйшаў у свет* (В.Жуковіч).

**Выціраць (выцерці) ногі** *аб каго. Разм. Неадабр. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці сукупнасці асоб.* Зняважліва адносячыся да каго-н., падпарадкоўваць сваёй волі, сваёй уладзе. **Сін.**: падтоптваць

пад ногі (у 1 знач.). *Цяпер нас ніхто баяцца не будзе.* ***Ногі*** *аб нас* ***выціраць*** *пачнуць* (Г.Марчук). *Мы ніколі не дазволім нас паганяць і тым больш* ***выціраць*** *аб нас* ***ногі****! Мы яшчэ здольныя і можам за сябе пастаяць!* (В.Гроднікаў). *Аб нас, беларусаў, чарговы раз* ***выцерлі ногі*** (А.Федарэнка). *Жывеш за мокрую анучу — кожны аб цябе імкнецца* ***ногі выцерці*** (У.Міхно). *[Аўдзей:] Я бацьку твайго помню — прайдоха ён, і ты прайдоха. [Другі мужык:] Хе-хе-хе, Аўдзей Усцінавіч, яно то гэтак, праўда твая... Што я? Аб мяне і* ***ногі выцерці*** *можна...* (У.Бутрамееў).

**Выцягнуць слова** *з каго, ад каго. Разм. Неадабр. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы.* Прымусіць каго-н. гаварыць. *Ад Бушмара* ***слова*** *цяпер больш як калі цяжка было* ***выцягнуць*** (К.Чорны). *Падумаць толькі, нейкі год назад з Піліпа цяжка было* ***слова выцягнуць,*** *а цяпер гаворыць ужо не менш гадзіны і ні разу нават вачэй не апусціў...* (П.Пестрак). *А цікава, што там на дачы робіцца? Не муж, а нейкі тайны агент,* ***слова*** *з яго не* ***выцягнеш...*** (М.Кулеш).

**Вышэй вушэй** *чаго. У безас. ужыв. Разм.* Надзвычай многа. Часцей пра работу, клопаты і пад. ***Сін.:*** адбою няма *ад каго* (у 1 знач.); ад пуза (у 2 знач.); без ліку; без меры (у 1 знач.); будзь здароў (у 2 знач.); бяры не хачу <*чаго*>; валіцца цераз горла *ў каго*; вышэй галавы *чаго*; да гібелі *каго, чаго*; дай бог (у 4 знач.); дай бог кожнаму (у 3 знач.); да ліха (у 1 знач.); да масквы ракам не пераставіш *каго, чаго*; да халеры *каго, чаго*; да хваробы (у 2 знач.); да чорта (у 3 знач.); з горла лезе *ў каго*; з горла прэ *ў каго*; імя *каму* легіён; канца-краю не відаць *чаму* (у 3 знач.); колькі ўлезе (у 2 знач.); колькі хочаш (у 1 знач.); мора разліўное (у 2 знач.); на валовай скуры не спішаш *чаго*; не кот наплакаў (у 1 знач.); непачаты край *чаго*; не хаханькі (у 2 знач.); пальцам не праткнуць *каго*; па <самае> горла (у 3 знач.); па <самую> завязку (у 3 знач.); па <самыя> вушы (у 4 знач.); плюнуць некуды; повен рот; праз меру (у 1 знач.); сорак саракоў *чаго*; у кожнай кішэні па жмені *каго*; хоць адбаўляй *каго, чаго*; хоць гаць гаці *каго, чаго, кім, чым*; хоць заваліся *чаго*; хоць заліся *чаго*; <хоць> плот гарадзі *кім, каго*; хоць <ты> махалам махай (у 2 знач.); цераз край *чаго*; цьма цьмушчая *каго, чаго*; чортава гібель *каго, чаго*; чортава процьма *каго, чаго*; чорт што *чаго*; як бобу *каго*; як гразі *каго, чаго*; як дроў; як завязаць (у 2 знач.); як на дзяды (у 2 знач.); як сабак нярэзаных *каго. Прайшоў я, значыць, творчы конкурс у Літаратурны інстытут. Гонару —* ***вышэй вушэй!*** *Прыехаў у белакаменную здаваць уступныя экзамены...* (Л.Галубовіч). *І не турбуйся, наўрад ці ў гэтыя выхадныя твае босы аб'явяцца. Напярэдадзе жаночы дзень, мяркую, у іх праблем і без цябе* ***вышэй вушэй...*** (Л.Маракоў).

**Вялікі расці!** *Выкл. Разм.* Выказванне дарослых, адрасаванае дзецям, як пажаданне ім удачы, поспеху, усяго добрага. — *Дзякуй табе, цётка. І вы —* ***расціце вялікія****, — пажадаў ён малым. — Можа, калі лепей будзе* (В.Быкаў). — *Дзякуй яшчэ раз. Шчасліва аставацца. — Будзь здароў.* ***Расці вялікі*** (І.Шамякін*). Гэта ж трэба — дажыць да сямідзесяці!.. Так, бацькі благаслаўлялі: “****Вялікі расці!****” Гадавалі, стаўлялі на ногі, рыхтавалі да другой дарогі* (А.Вярцінскі). [*Даніловіч*, с. 43: вялікі (велькі) расці – ‘выказванне падзякі дзецям за паслугу; дзякуй’ і ‘адказ дзецям на словы падзякі; калі ласка’.]

**Вярхом паехаць** *на кім. Праст. Неадабр. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы.* Пачаць прыгнятаць, здзекавацца з каго-н., выкарыстоўваць каго-н. у сваіх інтарэсах. *Сярод амаль бесперапыннага тлуму вуха ўлавіла жаночы голас: — Не, не! Маўчыце! Не скаруся! Раз яму саступі, другі —* ***вярхом паедзе!*** (Л.Калодзежны).

**Вясельны генерал**. *Адз. і мн. У ролі розных чл. ск. Разм. Іран.* Вядомая, важная асоба, запрошаная на якую-н. імпрэзу з мэтай надаць значнасць гэтай падзеі. *Пытанне пра падбор гасцей таксама адпадае: Любан — дырыжор, Вольфсан і Ляўкоў — на ролях* ***вясельных генералаў*** (Г.Колас). *Нібы* ***вясельны генерал****, ён узнікае на тэлеэкране па любой прычыне і без яе, даючы гледачам глыбакадумныя парады і настаўленні…* (К.Кірэенка). *У нас сваіх графоў, хто не паспеў эміграваць, ліквідавалі як клас. Тут* [у Германіі] *яны без насілля, эвалюцыйным шляхам перарадзіліся ў чэхаўскіх* ***вясельных генералаў*** (М.Грыбаў). *У заключэнне Іван Чыгрынаў уручыў пасведчанні выпускнікам… Напачатку запярэчыў: — Гэта ж роля* ***вясельнага генерала*** (ЛіМ. 14.12.2001).

## Г

**Гаворыць (гаварыў) сам (-а, -о, -і) за сябе**. *Адз. і мн. Функц. не зам. Ужыв. пры дзейн. са знач. канкр. і абстр. прадмета.* Выразна сведчыць пра што-н., не патрабуючы іншых пацвярджэнняў. *Цвердалобы, зблытаны ў падзеях урад вуснамі цара абвясціў маніфест аб прызыве ратнікаў апалчэння другога разраду… Размах здарэнняў* ***гаварыў сам за сябе*** (Ц.Гартны). *Ужо адзін факт, што Саід мае тры аўтамашыны,* ***гаворыць сам за сябе*** (А.Мяснікоў). *У нашай краіне з 13,3 у 1990 годзе да 9,3 у 1999 на тысячу насельніцтва паменшылася нараджальнасць і з 10,7 да 14,2 павялічылася смяротнасць. Лічбы* ***гавораць самі за сябе*** (ЛіМ. 5.01.2001). *Надзвычайная інфармаванасць налётчыкаў і наяўнасць у іх міліцэйскай формы* ***гаварылі самі за сябе*** (В.Праўдзін).

**Гад паласаты.** *Адз. і мн. Часцей у знач. вык. ці зваротка. Праст. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы.* Вылюдак, нягоднік, агідны, шкодны, каварны чалавек. Пра мужчыну. **Сін.:** гадзіна падкалодная; гадзіна паўзучая; гад падкалодны; гад паўзучы; гад печаны. *[Скаромны:] Рабочы клас вас не зразумее! Асудзіць! Закляймуе! [Каравай:] Ён хацеў накарміць рабочы клас! А?* ***Гад паласаты!*** *З каго скуру дзярэш? Жулік! Махляр! Спекулянт!* (А.Макаёнак). *Чалавек сто прыбегла разам з ім на торжышча. Хто з кіем, хто з голым кулаком. Жалезную зброю ваявода забараніў браць. — Дык гэта пярыннікі, нехрысці! — закрычаў натоўп. — Ах,* ***гады паласатыя!*** (Л.Дайнека).

**Гайкі закручваюцца** *дзе. У безас. ужыв. Разм. Часцей неадабр.* Строгасці ўзмацняюцца, патрабаванні павышаюцца. *Як адзначаюць сведкі,* ***гайкі*** *палітычнага ўціску ў Туркменістане* ***закручваюцца*** *ўсё тужэй. І пакутуюць ад рэпрэсій не толькі самі “арганізатары” замаху, але і іх сваякі* (А.Сіліч).

**Галава закружылася (закруцілася)** *у каго. У безас. ужыв. Разм.* **1.** Хто-н. пачаў адчуваць галавакружэнне (ад стомленасці, перажыванняў і пад.). **Сін.:** закруцілася ў галаве *ў каго. — Вам дрэнна? —* ***Галава закружылася*** (К.Крапіва). *Нарэшце* [Міхаська] *стаў адчуваць, як некуды правальваецца,* ***галава закружылася****, і ён страціў прытомнасць* (А.Якімовіч). ***Галава закружылася-закружылася****, і Насця, баючыся, каб не ўпусціць з рук Іру, аперлася на некага плячом — не помніць на каго* (І.Пташнікаў).

**2.** Хто-н. пачаў траціць здольнасць цвяроза разважаць (ад мноства спраў, перажыванняў і інш.). *І ён* [Лёвачка] *бег. А куды? Да дзеда Сідора, што ў Ярках. Зусім* ***закруцілася галава*** *— хаты Сідоравай знайсці не можа* (М.Лобан). *Цяжка, Рыгор, ой, як цяжка!.. Часамі пачнеш думаць, ажно* ***галава закружыцца****... Вось дзе бядота, дык бядота...* (Ц.Гартны).

**3.** Хто-н. стаў зазнавацца, пераацэньваць свае магчымасці. *— Вы, Касцянок, малады чалавек... У вас* ***галава закружылася****. — Сапраўды, – падхапіў Шапавалаў. — Што ж гэта вы, таварыш Касцянок! Мы вас падтрымлівалі, выцягвалі... А вы нас падводзіце* (І.Шамякін). *Той-сёй перастаў заўважаць зямлю пад нагамі.* ***Галава закружылася*** *з першых поспехаў* (І.Мележ). *Быў у нас на фронце такі выпадак: на наш бок перайшоў пад уплывам акопнай прапаганды венгерскі батальён. У хлопцаў* ***галовы закружыліся****...* (Л.Прокша).

**Галава не на вошы** *ў каго. У безас. ужыв. Разм. Адабр.* Хто-н. разумны, кемлівы, знаходлівы. **Сін.**: галава варыць *у каго*; <ёсць> <свая> галава на плячах *у каго*; кацялок варыць *у каго*; мазгі вараць *у*

*Ты, гаспадыня, не зіркай спадылба... Мы не бандыты* ***з вялікай дарогі****. Так што варушыся, паказвай, чым багата* (Л.Маракоў).

**З гледзішча** *чыйго, якога, каго, чаго. Акал. Разм.* З якой-н. пазіцыі, у адпаведнасці з чым-н. **Сін.:** з пункту гледжання *чыйго, каго, чаго;* у святле *чаго. Я паспрачаўся б наконт залішне катэгарычнай,* ***з*** *майго* ***гледзішча****, характарыстыкі творчасці згаданых табой пісьменнікаў* (У.Арлоў). *Калі і ў нас пагаварыць з простымі людзьмі, то* ***з гледзішча*** *пераважнай большасці з іх пытанне сімволікі яўна несур'ёзнае* (ЛіМ. 20.07.2001). ***З гледзішча*** *сінтаксічных нормаў кіравальныя сувязі паміж словамі ў такіх сказах не парушаюцца* (Роднае слова. 2002. № 11). [Васьмірадковыя мініяцюры Ніла Гілевіча] *– значны крок наперад як* ***з гледзішча*** *мастацкае дасканаласці, так і ў сэнсе паглыблення і завершанасці ідэйнае канцэпцыі* (В.Быкаў). *Пагаворым аб першай юбілейнай даце. Канешне, дзесяць гадоў* [часопісу “Беларуская думка”] ***з*** *гістарычнага* ***гледзішча*** *— тэрмін невялікі* (У.Вялічка).

**Згубіць сябе.** *Гл.* губляць (згубіць) сябе.

**Згуляць у паддаўкі.** *Разм. Іран. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы.* Часова пайсці на ўступкі, хітравата згаджаючыся з кім-н. *Ты паслухай мяне. Калі мы іх не падманем, не схітрым, яны нас закатуюць. Трэба трохі і* ***ў паддаўкі згуляць****. Не ірваць цераз сілу* (В.Быкаў).

*Клёцкі* **з душáмі**. *Азн. Разм.* Начыненыя мясным ці іншым фаршам з прыправамі. *Яшчэ з цыганскіх бадай што часінаў “клёцкі* ***з душамі****” ў вушацкіх рытуальная страва і на Дзяды, і на хаўтурах, і на памінках. Клёцкамі* ***з душамі*** *кормяць, калі мужчыны ідуць на цяжкую працу* (Р.Барадулін). *Гаспадыня са старэйшаю нявесткаю падала новую страву — калдуны, ці клёцкі* ***з душамі****, як іх яшчэ называюць, і ўсе дружна ўзяліся за іх* (У.Дамашэвіч). *Ушацкія клёцкі* ***з душамі*** *ўсе стравы за пояс заткнуць. Ясі — аж трашчыць за вушамі і можна язык праглынуць* (С.Законнікаў). *Мая маці карміла нас дранікамі, клёцкамі* ***з душамі*** (У.Арлоў).

**З душы верне**. *Разм. Неадабр. У безас. ужыв.* **1.** Каму-н. агідна, гідка, праціўна, моташна (часцей ад якіх-н. харчовых прадуктаў). *Ну, не будзе ў нас бульбы, дык гэта ж заўтра. А сёння ў нас пакуль што ёсць, мінулагодняя яшчэ, аж* ***з душы*** *ўжо* ***верне*** (В.Казько). *Пісала, бедная, што кормяць яе чарвямі, нейкімі пампушкамі, што ў кітайцаў лічылася смачнаю ядою, а ў яе ад гэтае яды* ***вярнула з душы*** (М. Гарэцкі).

***2.*** Прыкра, невыносна, няма сіл трываць што-н. агіднае. *Як пойдзе* [муж] *раніцаю, дык толькі апоўначы вяртаецца. І заўжды на*

*падпітку. “З патрэбнымі людзьмі п'ю”. А зірнеш на тых “патрэбных” — **з душы верне**. Слізкія ўсе, нібы вужакі* (В.Кадзетава). *У рытме конга — малайцы! Палітыка пад сексуальным соусам альбо секс, прыпраўлены палітыкай. Нацыянальная, так бы мовіць, справа* [на Кубе]. *Толькі мяне ад яе ўжо **з душы верне*** (А.Брава).

**Зжыўшы лета ды ў маліны.** *Выкл. Разм. Іран.* Выказванне нязгоды з чыім-н. запозненым намерам зрабіць што-н. — *Хоча ён князя Усяслава з поруба вызваліць. — **Зжыўшы лета ды ў маліны**, — аж прысвіснуў баярын. — Вызваліць Усяслава хоча. Ды Усяслава ўся кіеўская раць пільнуе* (Л.Дайнека). [*Мяцельская*, с. 106: зжыўшы лета ды ў маліны — ‘што-небудзь позна рабіць, рабіць не ў пару’.]

*Два (тры* і інш.) *класы* **з калідорам.** *Недап. азн. Разм. Часцей жарт.-іран.* Ужыв. пры спалучэнні тыпу “пяць класаў” як характарыстыка чыёй-н. невялікай адукацыі. *– Дзядзька Лыска за асвету ўзяўся, як відаць? – Ды прызнацца ўжо не сорам, пхнёмся пакрысе: сем тут класаў **з калідорам**... Я прайшоў усе* (К.Крапіва). *Хто я ёй, здаецца, – збоку прыпёку, а заўжды заўважыць, дарма што школу з нейкім там медалём скончыла, а ў мяне ўсяго тры класы, як той казаў, **з калідорам*** (Ф.Сіўко). *Петруся Броўку здзівіла: – Як гэта Якута настаўнікам стаў, ён жа скончыў адзін клас **з калідорам**? – Дык ён жа на конезаводзе настаўнікам, – кажуць землякі цалкам сур’ёзна* (Р.Барадулін).

**З канцамі**. *Акал. Разм.* Бясследна, безвынікова (знік, прапаў і пад.). *Людзі скардзіліся, але **з канцамі** знікла тая скарга* (А.Наварыч). *Ты вось паўгадзіны таму зашмаргу на дэмана* [вар’ята] *накінуў, а заўтра, можа, і на бабу тую накінеш, ваўчыцу, пасля таго, як яна хату прадасць. А потым зліняеш і – **з канцамі*** (Ю.Станкевіч).

**З капейкамі**. *Акал. Разм. Ужыв. пасля лічэбн. (пры прыблізным вызначэнні велічыні, даўжыні, колькасці чаго-н.).* З невялікім перавышэннем. **Сін.**: з гакам (у 1 знач.); з лішнім; з ліхвой (у 1 знач.); з паходам; з хвосцікам. *Нам трэба паспець у эвакапункт, а праз нейкі час зноў на платформу — састаў, што на Славянск праследуе, прыбывае праз нейкую гадзіну **з капейкамі*** (І.Капыловіч).

*Усе грошы* **з кашальком**. *Акал. Разм. Жарт. ці іран.* Абсалютна (усе грошы, якія былі ў наяўнасці*). — Заплаціў усе грошы **з кашальком**, — горка апавядаў ён, — прыгналі мне за вароты трактар на стаянку...* (В.Дубінка). — *Прасі яшчэ чаго хочаш. — Апахмялі. — Бяры. Бяры, рэшту не вяртай. У правай кішэні. Усе грошы твае. **З кашальком*** (В.Ткачоў).

**З ліхвой**. *Акал. Разм.* Больш, чым трэба (вярнуць, акупіцца і пад.). **Сін.**: з гакам (у 2 знач.); з лішкам (у 2 знач.). *Зямля непадкупна*

*сумленная: падкармі яе, напаі, потам сваім палі — дасць, не падмане, верне* ***з ліхвой*** (М.Лобан). *Жыццё пылінку вечнасці сваёй пазычыць пад настрой, але адразу цярпець прымусіць крыўду і абразу, вярнуць пазыку хочучы* ***з ліхвой*** (Р.Барадулін). *Усё гэта* [сабранае сярод калгаснікаў для фермы] *верне калгас увосень тым, хто дасць,* ***з ліхвой*** (Я.Ермаловіч).

**З лішнім**. *Акал. Разм. Ужыв. пасля лічэбн. (пры прыблізным вызначэнні велічыні, даўжыні, колькасці чаго-н.).* З невялікім перавышэннем. **Сін.**: з гакам (у 1 знач.); з капейкамі; з лішкам (у 1 знач.); з паходам; з хвосцікам. *Што рабіць* [Насовічу]? *А ўсяго толькі скласці слоўнік на трыццаць* ***з лішнім*** *тысяч слоў* (У.Караткевіч). *Сабор быў, відаць, паўтара* ***з лішнім*** *стагоддзя назад перабудаваны* (Маладосць. 1993. № 4).

**З міру па нітцы** *збіраць, сабраць* і пад. *Акал. Разм.* Ад усіх патроху. *Так Валодзька і збіраў памочнікаў, свой “мазгавы трэст”, – як гавораць,* ***з міру па нітцы*** (М.Герчык). *Гойдаючы малое, яна заўважала рукі, што працягвалі ёй белую хусціну: “Калі ласка”. Нехта прынёс пялёнку, нехта – кавалак марлі.* ***З міру па нітцы****...* (С.Шыдлоўская).

**Знайшоў (-ла, -ло, -лі) дурня.** *Выкл. Разм. Іран.* Выказванне нязгоды з кім-н., адмаўлення рабіць што-н. **Сін.:** нічога падобнага; няма дурных (у 1 знач.); скулу ў бок *каму*; трымай кішэнь шырэй; чорта з два (у 1 знач.); чорта лысага (у 1 знач.). *Патрабуюць* [гітлераўцы] *Мароза, іначай, сказалі, хлопцаў павесяць. Мароз ім патрэбны. “Ты чуеш? – крычыць камандзір. – І яна з гэтым прымчала ў лагер! Так ім Мароз і пабяжыць.* ***Знайшлі дурня****!”* (В.Быкаў). *[Лютар:] Яго ў дом не пускай. Скажы, няма гаспадара, з’ехаў. І сцеражыся яго, бо ён чараўнік і езуіт. [Слуга, убок:]* ***Знайшоў дурня****, сам уцякае, а мне заставайся* (М.Адамчык, М.Клімковіч). *Крахмалаў, які і не думаў працаваць з моладдзю (...* ***знайшлі дурня****), смяяўся* (І.Шамякін).

**Знакам тым**. *Устар. У знач. пабочн. сл. Разм.* Значыць, значыцца, выходзіць. **Сін.**: такім чынам. *[Сцяпан:] Калі ўжо табе, каханенькая, родненькая, так хочацца, дык скажу.* ***Знакам тым****, гэты паніч з далікатнасцяй і ўсякім такім — мой зяць. [Паўлінка:] Зяць?! [Сцяпан:]* ***Знакам тым****, ён не саўсім яшчэ зяць, але скора на яго выкіруецца* (Я.Купала). *Але што рабіць? Не скарыстаць запросінаў, не пайсці? Нельга. Як жа гэта будзе выглядаць! Значыцца, баіцца,* ***знакам тым****, нешта круціць, тоіцца...* (Ф.Аляхновіч).

**Зорка ўзыходзіць** *чыя. У безас. ужыв. Функц. не зам. Узнёсл.* Для каго-н. наступае што-н. новае, вельмі значнае ў жыцці. **Сін.:**

сонца ўзыходзіць <*каму, для каго*>. **Ант.:** зорка закацілася *чыя*; песенька спета *чыя, каго* (у 2 знач.); сонца зайшло *чыё*. *Калі “міністры” з народнага сакратарыята і іх сябры не толькі засмуціліся, але нават палі духам, што з імі гэтак двудушна і жорстка абышліся нямецкія генералы, дык Скураны ажыў, душою адчуў: здаецца, зноў* ***узыходзіць*** *яго* ***зорка****…* (Г.Далідовіч).

**З паветра**. *Акал. Разм. Часцей неадабр.* Невядома з чаго і раптоўна (зарабіць, займець і пад.). *Ах, самахват, які ты кемлівы… **З паветра** грошы выцадзіў* (І.Валасевіч). *Увогуле, не трэба пераацэньваць пытанні транзіту, так званага заробку што называецца — “**з паветра**”* (Звязда. 24.01.1996). *Улада не сама па сабе паяўляецца на свет, не **з паветра** ўзнікае* (ЛіМ. 12.12.1997).

**З пекла родам**. *У ролі прэдык. азн. Разм. Асудж.* Люты, бесчалавечны, бязлітасны. Пра чалавека. — *О тыя немцы, — гаварылі вяскоўцы ў гэтую вайну, — тыя немцы былі як людзі, а гэтыя — **з пекла родам*** (У.Калеснік). *Усе яны, уся радня **з пекла родам*** (Ф.Янкоўскі). [*Федароўскі*, с. 232: ён з пекла родам; *Прыказкі*, кн. 2, с. 76: баба з пекла родам.]

**З понтам**. *Акал. Праст.* З мэтай стварыць пэўнае ўражанне (форсу, важнасці, паказухі і пад.). **Сін.**: дзеля гадзіся; для адводу вачэй; для блізіру; для віду; для вока; для понту; для прыклёпу; для прыліку. *“Дзе падарунак?” — амаль крыкнуў хлопчык. “А я **з понтам**, піянер, — зноў усміхнулася госця. — З сабой няма, але…” Яна паклала кветкі, дастала з сумачкі грошы і дала хлопчыку. “Ідзі купі сам. Што хочаш”* (Ю.Станкевіч).

**З прыветам**. *Вык. і азн. Праст. Іран. Ужыв. пры наз. са знач. асобы.* Дзівакаваты, з незвычайнымі паводзінамі, звычаямі і пад. **Сін.**: без галавы; без клёпкі ў галаве; без цара ў галаве; галава <і> два вухі; галава садовая; галава яловая; дубовая галава; конь божы; курыная галава; куст альховы; медны лоб; мех з саломай; пень асінавы; пустая галава. **Ант.**: з галавой (у 1 знач.); з царом у галаве (у 1 знач.); светлая галава; у цемя не біты. *Па Наўі адразу пайшлі чуткі, што сваяк выйшаў з псіхіятрычнай бальніцы. Дый гэта ад пачатку было відаць, што чалавек “**з прыветам**” — з выгляду, як бадзяга, да сялянскай працы не змусіш…* (Л.Рублеўская). *Асабліва касавураца, калі выручку здаю… Аднойчы ўзнікае перада мной Таццяна Фёдараўна… Кажа: — Ты што, Аксана, **з прыветам**? Да якога часу ў цябе будзе “капейка ў капейку”?!* (П.Палітыка). *І тут ён сам сабе зарагатаў. Жонка прачнулася і спалохана ўтупілася ў яго. Яна заўсёды падазравала, што ён “**з прыветам**”* (А.Асташонак). *Дзед Нікодым быў для многіх чалавекам незразумелым, дзіваком,*

*адзінотнікам, чалавекам “**з прыветам**”, які не падобны ні на каго з тутэйшых людзей — і адзеннем, і думкамі, і паводзінамі, і ладам жыцця...* (А.Бароўскі).

**Зрабіць з камара каня**. *Гл.* рабіць (зрабіць) з камара каня.

**Зрабіць ногі**. *Праст. Іран. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы.* **1.** Кінуцца наўцёкі, імкліва ўцячы. **Сін.**: аддаваць канцы (у 2 знач.); вастрыць лыжы *куды, адкуль* ( у 2 знач.); выносіць ногі <*адкуль, ад каго*>; даваць дзёру; даваць драла; даваць драпака; даваць лататы; даваць махні-драла; даваць маху (у 2 знач.); даваць стракача *ад каго, адкуль, куды*; даваць у ногі; даваць ходу *адкуль, куды*; даваць цягу; змотваць вудачкі; падмазваць пяткі; паказваць пяткі; паказваць спіну (у 2 знач.); рваць кіпці. *“Геолагі” толькі і мараць знайсці золата і, ні з кім не дзелячыся, **зрабіць ногі** за мяжу* (А.Федарэнка). *Невядомы хацеў **зрабіць ногі**, але чатыры папераджальныя стрэлы сяржанта Пешкура яго спынілі* (Звязда. 17.11.1194). *Калі і заявіцца які — дык хутка ўцякае. Мусіць, і гэты, прымак, рашыў **ногі зрабіць**...* (А.Давыдаў).

**2.** *каму, чаму.* Укрaсці што-н. *Ля цырка яна* [Рыфма] *спыніла “мерседэс” і выйшла, пакінуўшы ключы ад запальвання ў замку. Яна напэўна ведала, што да раніцы машыне “**зробяць ногі**” тыя ж “азеры” ці яшчэ хто* (Ю.Станкевіч).

**З рыпам і скрыпам (з скрыпам-рыпам)**. *Акал. Разм. Часцей ужыв. пры дзесл.-вык. незак. тр.* З вялікай цяжкасцю, вельмі марудна (рабіць што-н., робіцца што-н.). **Сін.**: з горам папалам; з грахом папалам (у 2 знач.); са скрыпам. *Патрэбна было шмат беларускіх настаўнікаў, службоўцаў, работнікаў нізавога звяна, каб запусціць у ход дзяржаўную машыну на новай тэрыторыі. Усё шло **з рыпам і скрыпам**, аднак ішло ў патрэбным кірунку* (У.Дамашэвіч). *Аповесць прайшла* [у рэдакцыі часопіса] *даволі гладка. А вось “Пушчанская адысея” А.Карпюка ішла **з скрыпам і рыпам*** (Крыніца. 1998. № 11). [*Параўн. ва ўкр. м.:* з скрипом (з рипом); з скрипом рипом.]

**З скрыпам-рыпам**. *Гл.* з рыпам і скрыпам (з скрыпам-рыпам).

**Зубы замаўляць** *каму. Разм. Неадабр. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы.* Хітруючы, пабочнымі размовамі адцягваць увагу ад чаго-н. важнага. **Сін.**: загаворваць зубы *каму. Ты мне **зубоў** не **замаўляй**, бо ўсё роўна нічога не дам за тваю балбатню* (І.Козел). *— Полечка, дальбог не я... — Ты мне **зубоў** не **замаўляй**... Была ў цябе ўчора Шутава Валя? Была!..* (В.Шырко).

*Гасцей* **з усіх валасцей**. *У безас. ужыв. Разм.* Вельмі многа і з розных мясцін. *Калі Куляшову надышоў 60-гадовы юбілей, натуральна, было гасцей **з усіх валасцей*** (Р.Барадулін). [*Насовіч* (с.

28) прыводзіць гэты выраз з такім тлумачэннем: “Жартаўліва кажуць наконт вялікага сходу”.]

**Зух з колам (калом) да мух**. *Разм. Іран. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы.* Смелы, самаўпэўнены толькі сярод слабых. **Сін.**: зух супроць мух. — *Пайшлі, Арсень, — рашуча рыкнуў Шлык, — абыдземся без гэтага салапёкі, каб ён на хлеб спяваў. — А ты таксама* ***зух — з колам да мух****, — адгыркаўся начальнік* (У.Караткевіч). *Сяляне сталі частаваць спадара прystава кухталямі. Каб не месточкоўцы, натоўкалі б прыставу пысу да нясхочу. — Га!* ***Зух з колам да мух****! — атурзвалі мяшчане зламысная шляхцюка* (А.Наварыч). [*Федароўскі*, с. 361: зух з колам да мух.]

**З характарам.** *Вык. Разм. Часцей адабр. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы.* Рашучы, прынцыповы, не бязвольны. — *А куды ты малако возіш? —У мястэчка, куды ж! — з яўнаю нездаволенасцю сказаў хлопец, і Сцёпка падумаў, што паліцаеў сынок, здаецца,* ***з характарам*** (В.Быкаў). *Лёша рос не такім падатлівым, ціхоняй, а быў* ***з характарам****, мог пастаяць за сябе* (І.Грамовіч). *[Каравай:] Мяккацелы, кажаце? Не-е… Мужык* ***з характарам*** (А.Макаёнак). *Ну, а Кулік таксама* ***з характарам****. Барацьба ішла з пераменным поспехам* (У.Дамашэвіч).

**Зыход у іншы свет** *каго, чый. Гл.* адыход (зыход) у іншы свет *каго, чый.*

## І

**Іван-чай**. *Мн. не ўжыв. Часцей дзейн. і дап. Функц. не зам.* Шматгадовая травяністая расліна (лекавая, харчовая, кармавая і меданосная) сямейства скрыпневых (chamerion). *На Каралінскай пасецы пад жоўтымі бярозкамі загрукалі капыты, топчучы* ***іван-чай*** *і перамешваючы яго з зямлёй* (І.Пташнікаў). *І ты, Меньчу, не ўяўляеш, якая шчаслівая, што бачыш родную бярозку,* ***іван-чай*** (В.Карамазаў). *Шуміць ссушэлы лісцік* ***Іван-чая*** (Г.Пашкоў). *На стале стаяў букет з* ***Іван-чаю*** (Л.Геніюш).

*Біць* **і (ды) душу (духу) слухаць**. *Акал. Разм.* (Біць) вельмі моцна, не шкадуючы. *Мне рупіла набіць морду аднаму такому за тое, што ён скрадваўся з каханнем да Тасі, па-прасцяцку захабарваючы яе безгалоўным вінам і падманлівымі шакаладкамі… Біць яго* ***ды духу слухаць*** *за тое найбольш, што так мала яму трэба!* (С.Яновіч). *Каб гэта маё дзіця было, то паказаў бы; за такую работу трэба біць* ***і душу слухаць*** (М.Даніловіч). [*Федароўскі*, с. 29: біць, біць і духу слухаць; *Лепешаў*, с. 39: *біць* і душу слухаць.]

**<I> на дух** *не пераносіць, не выносіць і пад. Акал. Разм.* Рашуча, неаспрэчна, катэгарычна. *Мая жонка поедам есць з-за курыва.* ***На дух*** *не пераносіць* (А.Казлоў). *Хоць у зямлі і тры гаспадары — прырода, мужык і ўлада, але яна любіць толькі першых двух. Уладу* ***і на дух*** *не пераносіць. Ні ранейшую, ні цяперашнюю* (В.Гроднікаў). *Усе ў доме ведалі, што Валя* ***на дух*** *не выносіць п'яніц, асабліва жанчын* (Н.Рыбнік). *Кацярына Вялікая, немка сама,* ***на дух*** *не пераносіла немцаў — гэтаксама пазней Леў Давыдавіч Бранштэйн альбо Троцкі* ***на дух*** *не пераносіў жыдоў-аднакроўцаў* (А.Чобат).

**І пернікам (-і) не заманіш** *каго, куды. Часцей у 2-й ас. У абаг.-асаб. знач. Разм.* Нічым, ніякім чынам не ўгаворыш, не прывабіш каго-н. быць дзе-н. **Сін.**: і на вяроўцы не зацягнеш *каго куды*; калом не загоніш *каго куды. А можа, і не маладая* [настаўніца]? *Маладых сюды* ***і пернікам не заманіш*** (С.Грахоўскі). *Што мяне, старую, дык* ***і пернікам*** *у горад* ***не заманіш*** (У.Кузьмянкоў). *Яны* [маладзейшыя жанчыны] *не адмовяцца, тут брыгадзір спакойны. З пенсіянеркамі цяжэй. Іх ужо* ***і пернікам не заманіць*** *на тыя буракі* (В.Шырко).

**Ісці (пайсці) пад адхон.** *Разм. Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета.* Цярпець крах, няўдачу; канчаткова разбурацца, развальвацца. **Сін.:** ісці дымам (у 2 знач.); ісці з ветрам (у 2 знач.); ісці на дно; ісці прахам; ісці ў пясок. *Другія адчайваюцца, бачачы, як усё навокал руйнуецца,* ***ідзе пад адхон****, распадаецца на вачах, паглыбляецца рэгрэс грамадства...* (М.Тычына). *Вароніч напісаў праўду, а яна прачула, – і іхняя дружба* ***пайшла пад адхон*** (М.Ракітны).

**Ісці наперадзе прагрэсу.** *Разм. Іран. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы.* Праяўляючы якую-н. ініцыятыву, дзейнічаць неразумна, нелагічна і пад. *Мы тут не імкнёмся* ***ісці наперадзе прагрэсу****. І не ставім гэта пытанне спантанна, пад уплывам якіх-небудзь падзей ці звестак…* (А.Вярцінскі).

**Ісці (сыходзіць; пайсці, сысці) у пясок**. *Разм. Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета ці займ. у с е.* Цярпець крах, няўдачу; праходзіць упустую, безвынікова. **Сін.**: ісці з дымам (у 2 знач.); ісці з ветрам (у 2 знач.); ісці на дно; ісці пад адхон; ісці прахам. *І такіх дысертацый у пасляваенны перыяд было абаронена да тысячы! Колькі змарнавана паперы, часу і грошай! І ўсё гэта словаблуддзе, як вычварэнствы сярэднявечных схаластаў,* ***пайшло ў пясок*** (М.Чарняўскі*). Грамадская рэакцыя аказалася вялай і няпэўнай, усё* ***сышло ў пясок*** (У.Халіп). *Праца для сённяшняга дня не* ***ідзе ў пясок****, а прыносіць даволі аптымістычныя вынікі* (Наша ніва. 26.04.2002).

*Што пяцідзесяці-, што пяцітысячныя акцыі з разгонамі і пасадкамі, — **сыходзяць у пясок*** (С.Дубянец).

**І сячэ і паліць.** *Звычайна ў гэтай форме. Разм. Адабр. і неадабр. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы.* Ведае, што сказаць, знаходлівы ў размове. **Сін.:** бойкі на язык; востры на язык; не лезе па слова ў кішэню; слова не пазычае. *Эма працягвала: – Бог дае, Бог бярэ. Вам, – зірнула на брата, на Лакотку, – таксама даў і ўзяў, увёў у аўдыторыю і вывеў... – Рэдкая сястра ў цябе: **і сячэ і паліць**. З ног збіла, на галаву паставіла* (М.Воранаў). *Ну, а ўдваіх, кажуць, добра і жабраваць пайсці... А калі да таго – Ігнат яшчэ **і сячэ і паліць**...* (А.Петрашкевіч). *Ты паслухаў бы толькі яе нявестку, як яна **і сякець і паліць*** (Г.Юрчанка).

**І ў коле і ў мяле** *быць, пабыць* і пад. *Вык. Разм. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы.* У самых разнастайных жыццёвых сітуацыях (быць і пад.). **Сін.**: на кані і пад канём. *Адкуль жа яму, маладзейшаму гадоў на пятнаццаць, ведаць, што гэты вучоны чалавек быў **і ў коле і ў мяле**, што не засталася марнай маміна навука: працы і світкі не саромейся; дай божа ўсё ўмець, ды не ўсё рабіць* (Настаўн. газ. 10.06.2000). *Чалавек гэты пабыў, як кажуць, **і ў коле і ў мяле**, але пакуль што не ўпадабаў сабе пэўнага прыстанішча* (І.Сіманоўскі). [*Насовіч*, с. 10; *Янкоўскі*, с. 75: быў і ў коле і ў мяле.]

**Іх бярэ (узяло, возьме).** *У знач. асаб. ск. Разм.* Яны перамагаюць; выходзіць што-н. па-іхняму. Выказванне прызнання чыёй-н. перамогі. — *Не вітаешся, — працадзіў Кашын праз зубы... — Пахаваў ужо? Дарэмна! А што, калі я зноў вярнуся, хоць цяпер **іх** і **ўзяло**? Падумаў пра гэта? Не? Падумай* (У.Карпаў).

## К

**Каб хоць!** *Выкл. Разм.* Воклiч немагчымасці, адмаўлення чаго-н., пярэчання на сваё ці чужое выказванне. **Сін.**: дзе там!; куды там! *Казаў жа не раз: хто хоча вучыцца на гуслях — прыходзьце. **Каб хоць!** І не думаюць нават* (Я.Пархута). [*Лепешаў*, с. 41: каб хоць!]

**Кавалерыйскі (-я) наскок (-і)**. *У ролі розных чл. ск. Функц. не зам. Неадабр.* Імклівыя, раптоўныя, нечаканыя для каго-н. дзеянні. *Германія – краіна стабільная, **кавалерыйскіх наскокаў** у сур’ёзных справах не практыкуе* (ЛіМ. 4.10.2002). *Ёсць, вядома, нямала прыкладаў таго, калі пэўны пісьменнік з аднолькавым поспехам мог тварыць у некалькіх літаратурных жанрах. І ўсё ж... І ўсё ж я паўтараю: **кавалерыйскім наскокам** драматургію не “заваюеш”* (А.Макаёнак).

**Казённы дом**. *Адз. і мн. У ролі розных чл. ск. Разм.* Турма. **Сін.**: каменны мяшок (у 1 знач.*). А як жа яна пазнала, што я сапраўды з "**казённага дома**"? А **казённы дом** — гэта ж турма, даўно ведама ў народзе* (У.Глыбінны). *Можа б, лепш было, каб цыганка паваражыла… Можа, кінуўшы карты, выпаў бы для іхняга лёсу **казённы дом**, а ў "што будзе" ляжа далёкая халодная дарога* (Л.Калюга). *Канчаліся гэтыя гулі заўсёды адным і тым жа. Міліцыя, пратакол, суд – і доўгая камандзіроўка ў **казённы дом*** (А.Федарэнка).

**Каланіца носіць** *каго дзе, калі. У безас. ужыв. Праст. Неадабр.* Хто-н. недарэчы, не ў пару аказваецца, з'яўляецца дзе-н. **Сін.**: ліха носіць *каго дзе*; нялёгкая носіць *каго дзе*; нячыстая сіла носіць *каго дзе*; нячысцік носіць *каго дзе*; халера носіць *каго дзе*; хвароба носіць *каго дзе*; чорт носіць *каго дзе*; чэрці душаць *каго дзе. "Аэраплан! Аэраплан!" — пракінулася па радах. Задраліся галовы. "У хлябу і то **каланіца** яго **носіць**", — прабурчаў нехта* (М.Гарэцкі). [*Лепешаў*, с. 42: каланіца носіць *каго дзе*.]

**Камяні кідаюцца** *ў каго. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. асуджаецца, абвінавачваецца, ганьбіцца. *І зноў непрыемна чытаць некаторыя ўспаміны, дзе **кідаюцца камяні** ў яе* [жонку Міхася Стральцова] (Р.Барадулін).

**Канькі адкідаць (адкідваць, адкінуць)**. *Праст. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы.* Паміраць. **Сін.:** аддаваць богу душу; аддаваць канцы (у 3 знач.); аддаваць духі; адкідаць капыты (у 1 знач.); адпраўляцца да абрама на піва; адпраўляцца на той свет; адыходзіць з гэтага свету; адыходзіць у вечнасць (у 1 знач.); адыходзіць у іншы свет; адыходзіць у лепшы свет; выпростваць ногі; выцягнуць ногі; даваць дуба; дух выпусціць (у 1 знач.); дух спускаць; духу не ўказаць; душой загавець; загадаць доўга жыць *каму* (у 1 знач.); задзіраць капыты (у 2 знач.); задзіраць ногі; замуж за <пана> пясоцкага *збірацца*; заснуць вечным сном; заснуць навекі; згарнуць рукі; з капытоў далоў (у 2 знач.); лажыцца ў магілу; пайсці ў магілу; пачыць у бозе; складваць рукі (у 2 знач.); сыходзіць са сцэны (у 4 знач.); трапіць да абрама на піва. — *Міця, а калі ён натварыў дзе-небудзь якой злыбеды і тут адлежваецца? — Дык па-твойму няхай лепш **канькі адкідае** ад холаду ў гэтай стайні?! – узлаваўся Міця* (А.Жук). [*Лепешаў*, с. 42: канькі адкінуць.]

**Капанне ў бруднай бялізне**. *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Разм.* Праяўленне залішняй цікавасці да ценявых бакоў чыйго-н. асабістага жыцця, узаемаадносінаў, дзейнасці і пад. *Існуюць розныя інтрыгі і прыёмчыкі, знаёмыя нам па нядобрай памяці недалёкіх*

*часінаў. Адзін з такіх езуіцкіх прыёмаў — **капанне ў бруднай бялізне**, а няма яе, дык не грэх зрабіць яе такой* (ЛіМ. 1.09.2000).

**Касцьмі класціся**. *Функц. не зам. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы.* Прыкладаць вялікія намаганні дабіцца чаго-н. *Дзесяткі гадоў мы змагаліся за родную мову — некаторыя **касцьмі клаліся** ў тым змаганні (як Уладзімір Дамашэвіч, напрыклад), закідвалі пісьмамі ЦК КПСС, Гарбачова* (В.Быкаў). *Нарэшце, дачакаліся! Кіраўнік пачаў **касцьмі класціся**, каб абараніць незалежнасць беларускай дзяржавы* (А.Сіліч).

**Каціцца пад адхон**. *Функц. не зам. Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета.* Блізіцца да завяршэння. *Вайна шпарка **цацілася пад адхон**, днямі быў узяты Берлін, а мы ўперліся ў нямецкі абарончы рубеж за невялікім аўстрыйскім гарадком і трэці дзень стаялі на месцы* (В.Быкаў).

**Кашалёк тугі**. *У ролі розных чл. ск. Разм.* Вельмі вялікі капітал. **Сін.**: кішэня вялікая (у 2 знач.); тоўстая кішэнь; тоўсты кашалёк. **Ант.**: кішэня малая (у 2 знач.). *Душы ў пустапаш пустазельную вырадзіліся. Бацькоў сваіх вось крадком пахаваўшы на могілках, бяспамяццю зарастаючых, за палеткамі пакінутых, а дзяцей у зямлю абяцаную або ў Амерыкі выправіўшы з **кашалькамі тугімі**, агледзеліся і самі век дажываючымі, каратаючымі дзень да вечара ды над фатаграфіямі даўнімі галавой ківаючы...* (С.Яновіч).

**Квадратура круга**. *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Кніжн.* Невырашальная задача. *Які ні меў бы змалку характар і натуру і як бы паднябесных ты ні прасіў багоў, — табе дасюль не выйсці з задушнай **квадратуры круга** турбот нязменных і гадавых кругоў. Не вер, калі замякка табе зласліўцы сцелюць. Прыпомні перад Богам грахі і ўсе даўгі. У **квадратуры круга** праступіць праўды эліпс. А ў эліпсе ты знойдзешману крывой дугі* (В.Макарэвіч). *[Паэт] удала асвоіў новую паэтычную прастору нашай рэчаіснасці. Прастору, што не паддаецца вымярэнню нават **квадратурай круга*** (І.Катляроў). [У "Планідзе" Пятровіча] *тыя ж праблемы: зачараванае кола, кругаварот жыцця, замкнуты ланцуг падзей і здарэнняў, кругавая парука людзей і дзеяў, парука ў хлусні і няшчасці — словам, **квадратура круга**...* (А.Кудласевіч).

**Кісларод перакрыты** *каму, чаму. У безас. ужыв. Функц. не зам. Неадабр.* Створаны неспрыяльныя ўмовы для чыёй-н. дзейнасці. *Ад абразы, паклёпаў балюча ўздымацца, **перакрыты** надоўга калі **кісларод*** (Нар. воля. 4.04.1997).

**Класці (пакласці, скласці) на алтар** *чаго, чый што. Кніжн. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці сукупнасці асоб.* Аддаваць што-н. у

імя чагосьці высокага, дарагога і пад. *Свабода гэтая далёка не анархісцкая,* ***на алтар*** *яе, як сцвярджае паэт, трэба* ***класці*** *і добраахвотныя ахвяры* (І.Навуменка*).* [Рэспубліка] ***на алтар*** *інтэрнацыяналізму* ***паклала*** *не толькі гераічную працу, але і мільёны жыццяў сваіх лепшых сыноў і дачок* (С.Законнікаў). *Мусіць, у гісторыі не было іншага чалавека, які б* ***паклаў на алтар*** *беларускага асветніцтва столькі ўласных сродкаў, як Магдаліна Радзівіл* (Настаўн. газ. 26.01.2002). *Пенсіянер* ***паклаў на алтар*** *Айчыны ўсе свае сілы, свае лепшыя гады, выконваў любы загад, заклік дзяржавы* (В.Гроднікаў). *Мастацтва робіць сваю справу, і паэт лічыць, што зусім заканамерна* ***скласці на*** *яго* ***алтар*** *усе свае сілы* (А.Лойка). *Я цэлае жыццё аддаў слову. Дзеля яго пакутаваў за кратамі.* ***На алтар*** *слова* ***склаў*** *ахвяры. І як балюча ўсведамляць, што яно цяпер непатрэбнае* (М.Сяднёў).

**Класціся на алтар** *чаго, чаму. Кніжн. Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета.* Аддавацца чаму-н. у імя чагосьці высокага, дарагога і пад. *Ды што змагацца з неспазнаным?* ***На алтар*** *яму* ***кладзецца*** *творчасць – ахвярапрынашэнне, калі ахвярнікам робіцца мальберт, аркуш паперы, сцэна, ахвярай – талент і дух* (В.Куртаніч).

**Класціся пад сукно**. *Разм. Неадабр. Ужыв пры дзейн. са знач. канкр. прадмета.* Пакідацца без увагі, без далейшага развіцця чаго-н. (заявы, пісьмовага меркавання і пад.). *Меркаванням рэцэнзента надаваўся ход толькі ў тым выпадку, калі яны ў галоўным супадалі з выдавецкім намерам. У адваротным выпадку закрытая рэцэнзія* ***клалася пад сукно*** (Дз.Бугаёў).

**Кола замкнулася**. *Часцей ужыв. як самастойны ск. Функц. не зам.* Склаліся блізкія да зыходных абставіны, з якіх цяжка знайсці выйсце. *Тое, што на пачатку аднаго стагоддзя мучыла Купалу, засталося такім жа актуальным на пачатку нашага…* ***Кола замкнулася****…* (Н.Гілевіч). *Ну а гарадскі суд проста прадубліраваў рашэнне раённага. І, як заўсёды,* ***кола замкнулася*** (С.Шаўцоў). ***Кола замкнулася****. Усё вяртаецца на кругі своя. Час бязлітасны і справядлівы. Усё праходзіць на гэтым свеце* (С.Сцяпан).

*Чыя, якая* **кроў цячэ (плыве) у жылах (венах)** *чыіх, каго. У безас. ужыв. Функц. не зам.* **1.** Хто-н. паходзіць з якога-н. роду, народа, часу і пад. *Полацкія баяры ўратавалі Таўцівілавага сына,* ***у жылах*** *якога* ***цякла*** *полацка-літоўская* ***кроў****, пераправілі яго ў Ноўгарад* (Г.Далідовіч). *Намі кіруюць людзі,* ***у венах*** *якіх* ***цячэ кроў*** *1937 года* (А.Вярцінскі). ***У жылах*** *яго* ***плыла*** *кіпучая* ***кроў*** *слаўных лесаўчыкоў — брагінскіх і пінскіх казакоў* (В.Ластоўскі). *Бескарыслівую дапамогу, сардэчную ўвагу і падтрымку Святланы і Джані, а*

*таксама іхняга сына Карла — студэнта, гожага, абаяльнага хлопца, **у венах** якога **цячэ** італьянская і славянская **кроў**, мы змаглі ацаніць па-сапраўднаму пазней…* (С.Законнікаў).

**2.** У кім-н. выяўляецца характар каго-н., схільнасць да чаго-н. *[Мікіта:] І гэтае, меджду протчым, здарэнне перакaнала мяне, што **кроў** свабодных прафесій **у** маіх **жылах** яшчэ не **цячэ** і што маё праўдзівае прызванне вось у чым: паперы, паперы і паперы* (Я.Купала). *Ганна — "небяспечная, гарачая", **у** яе **жылах цячэ** бунтарская **кроў*** (І.Воюш). *Няхай жа заўсёды **ў** нашых **жылах цячэ** яе* [Рагнеды] *палымяная **кроў**…* (М.Ермаловіч).

**Круціць шарманку**. *Разм. Неадабр. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы.* Надакучліва гаварыць пра адно і тое ж. **Сін.:** круціць катрынку. *Гебельс **круціць шарманку**, значыць – у Гітлера туз* (К.Крапіва).

**Крыжа няма** *на кім. У безас. ужыв. Разм. Неадабр.* Хто-н. бессаромны, несумленны ў якіх-н. дзеяннях, паводзінах. *А хіба без матчынай помачы ён вунь у якія людзі выбіўся б? А ён, выходзіць, забыў матку? **Крыжа** на ім **няма*** (І.Капыловіч).

**Крытычная маса**. *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Кніжн.* Пэўная мера чаго-н., неабходная для рэзкага, імклівага пераходу чаго-н. у іншы стан. Звычайна пра грамадскія стасункі. *Мяркуючы па ўсім, у арабаў дасягнула **крытычнай масы** пачуццё шчымлівай крыўды, знявагі іх годнасці* (В.Якавенка). *Ідзе назапашванне сіл. Павінна назбірацца **крытычная маса*** (М.Скобла). ***Крытычная маса** ўжо дасягнула сваёй мяжы. Страх замяняецца пратэстам і супраціўленнем* (У.Глод). *Падазраю, што і сёння шмат каму тое фармаванне **крытычнае масы** ўяўляецца немэтазгодным* (С.Дубавец).

**Кулакі сціскаюцца** *ў каго, чые. У безас. ужыв. Разм.* Узнікае жаданне помсціць каму-н., змагацца з кім-н. **Сін.**: кулакі свярбяць *у каго*; рукі свярбяць *у каго* (у 1 знач.). *Часам едзеш лесам, і раптам — паляна, здзічэлыя садовыя дрэвы (вёска так і не адрадзілася) і абеліск, а на ім словы, ад якіх **сціскаюцца кулакі** і ідзе па скуры мароз: "Тут пахаваны расстраляныя немцамі…"* (У.Караткевіч). *І **сціскаліся** марна радкоў **кулакі**. І баялася восені лета. Палявалі ваўкі. Балявалі Ляўкі — залачоная клетка Паэта…* (Р.Барадулін). *У следчага **кулакі сціскаліся**, так хацелася абараніць гэтую бяскрыўдную істоту* (Настаўн. газ. 2.08.2001). *І што б мне захварэць як мае быць. Скончыліся б гэтыя мукі. Будзь проклята мая доля, кінуўшая мяне ў вайну… У-у! На каго **сціскаюцца** мае **кулакі*** (М.Гарэцкі).

**Купацца ў золаце**. *Разм. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы.* Валодаць вялікімі капіталамі, быць надзвычай багатым. **Сін.**: грэбці лапатай *грошы*; мерац асьмінай *грошы*. *Скрыпач хадзіў па зямлі,*

*ніколі не заходзячы ў замкі і палацы, хаця мог бы* ***купацца ў золаце****. І ніколі не мінаў ніводнай халупы, нават калі там не маглі яму падаць і скарынкі, але дужа прасілі, каб зайшоў* (У.Караткевіч). *Праўда, што мужыкі з голаду паміраюць, а цар і паны* ***ў золаце купаюцца*** (А.Якімовіч).

**Курэнне фіміяму**. *Мн. не ўжыв. Кніжн. У ролі розных чл. ск.* Надзвычайнае ўзвялічванне, ліслівае праслаўленне каго-н. *Ад нечаканасці і такога адкрытага* ***курэння фіміяму*** *я ледзь не з'ехала пад трыбуну, што стаяла побач* (В.Паўлава).

**Л**

**Ламанне галавы**. *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам.* Напружаная спроба вырашыць, зразумець, разгадаць што-н. *Што датычыцца таго, як пракарміць сям'ю, то гэта сапраўды рэальнае* ***ламанне галавы****, часам сорам і ганьба, калі і жыць не хочацца* (Р.Тармола-Мірскі).

**Ламанне хрыбта** *каму, чаму. Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Разм.* Бязлітасная расправа з кім-н. ці чым-н. *І вось настаў верасень 1939 года — даўгачаканы дзень Вызвалення. Амаль адразу і ў нас пачалося* ***ламанне хрыбта*** *ўсяму здароваму, назапашанаму чалавецтвам за мінулыя стагоддзі* (А. Карпюк).

**Ламацца цераз (праз) калена**. *Разм. Неадабр. Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета.* Рашуча адхіляцца, адкідацца. ***Цераз калена ламаюцца*** *традыцыйныя структуры кіравання. Выбарнасць як найважнейшы элемент акадэмічнага жыцця ліквідуецца* (І.Сярэдзіч).

**Ламаць праз (цераз) калена** *што. Разм. Неадабр. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы.* Рашуча адхіляць, адкідаць што-н. *— Камандзір, нельга так адразу* ***ламаць праз калена****... — нарэшце не вытрымаў Шпакоўскі. — Табе з намі служыць, а служыць трэба дружна...* (В.Блакіт). *Эканамічныя законы трэба захоўваць, а не* ***ламаць цераз калена*** (І.Нікітчанка). *Хто, акрамя лідэраў незалежніцкай партыі, павінен быў ведаць урокі беларускай гісторыі і не* ***ламаць цераз калена****?* (Ю.Хадыка). *Для дасягнення мэты тут не надта цырымоняцца і не грэбуць нічым.* ***Ламаюць праз калена*** (А.Лябедзька).

**Легчы (залегчы) на дно**. *Разм. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы.* Прытаіўшыся, не рабіць ніякіх дзеянняў. *Нам трэба на пару тыдняў* ***легчы на дно****, перачакаць, а як міліцэйскі шмон на дарогах сціхне, уцячы за мяжу* (В.Праўдзін). *— Мне трэба падумаць... — Канечне, падумай, толькі нядоўга, мне сёння трэба ведаць, дзе* ***залёг на дно*** *Гушча* (Маладосць. 1995. №5). *Зволіўшыся з гэтай пасады, ён* ***залёг на дно****... Не хацеў лішні раз паказвацца* (Нар. воля. 16.11.2000).

**Літара ў літару**. *Акал. Функц. не зам.* Абсалютна дакладна, без адхіленняў (пісаць, паўтараць, выконваць і пад.). **Сін.**: слова ў слова. *Ад яго патрабуецца толькі адно — выконваць **літара ў літару** тое, што яму загадалі, гэта значыць рабіць «выверанья, узгодненыя дзеянні»* (А.Вярбіцкі).

**Ліцца ракой**. *Разм. Ужыв. пры дзейн. са знач. канкр. прадмета (часцей пра віно, піва і пад.).* Выкарыстоўвацца ў вялікай колькасці. *У асеннія доўгія ночы пачынаюцца балі, гульні і розныя вясёлыя забавы. Віно **льецца ракой**. Найлепшая яда навалена гарамі на пекна прыбраных сталах...* (З.Бядуля). *Тады было святкаванне 300-годдзя горада. Піва, зразумела, **ракой лілося*** (А.Сівы). [Сірацюк] *захацеў зэканоміць — у вёсцы, палічыў, можна ў мясцовых шафёраў купіць паліва значна танней, і ён рабіў так часцяком. І на табе: калгас упершыню застаўся без паліва, якое раней **лілося** тут **ракой*** (В.Ткачоў).

**Лямант у пустыні.** *Гл.* <марны> лямант (голас) у пустыні.

**Лятучая мыш.** *Адз. і мн. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам.* **1.** Начная млекакормячая жывёліна з шырокімі перапончатымі крыламі; кажан. *Над ім, таксама нячутна мільгаючы крыльцамі, улукаткі вілася **лятучая мыш*** (В.Адамчык). *Прыбілася ў галаву сцішнае, як **лятучая мыш**: «А ці ўжывешся з кімсьці, хто няздольны быць рады не ад сваёй удачы?»* (С.Яновіч).

**2.** Пераносны газавы ліхтар пэўнай канструкцыі. *Чадзіў ліхтар «**лятучая мыш**», было душна, смярдзела прэлымі анучамі* (І.Шамякін). *Цупаюць у дзённай яснасці і ў чорныя, з першым подыхам холаду, ночы — пры святле «**лятучых мышаў**»* (І.Мележ). *Дзям'ян запаліў «**лятучую мыш**» і падаўся дахаты* (І.Дубоўскі). *Ляшковіч падняў з-пад ног «**лятучую мыш**» з вялікай чыстай шкелкай і павёў мяне ў самы канец канюшні* (І.Пташнікаў).

**Ляцець (паляцець) у тартарары**. *Разм. Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета.* Змяняцца карэнным чынам, развальвацца, гінуць. **Сін.**: пераварочвацца дагары нагамі; пераварочвацца ўверх дном; ставіцца дагары нагамі; ставіцца з ног на галаву. *Можа б,* [паручнік] *жыў так і далей, калі б не вайна, не гэтая рэвалюцыя, калі ўсё ранейшае **паляцела ў тартарары*** (В.Быкаў).

## М

**Маё (мая) бярэ (узяло, возьме).** *У знач. асаб. ск. Разм.* Я перамагаю; выходзіць што-н. па-мойму. Выказванне прызнання сваёй перамогі. *Калі на другога* [брата] *няшчасце накатвалася, першы ад радасці ў скокі пускаўся: **маё бярэ**!* (У.Правасуд). *Давай на заклад,*

*што* ***маё возьме*** (Ф.Янкоўскі). *Пачакай,* ***возьме маё****, я з табой расквітаюся!..* (І.Шамякін). *Жанчына выслізнула ў сенцы, гаспадар, прыслухоўваючыся, выструніўся і, пачуўшы металічнае звяканне, — напэўна, гаспадыня бразнула ключамі, — задаволена крактануў: —* ***Мая ўзяла****...* (В.Праўдзін).

**Мазаць чорнай фарбай**. *Гл.* маляваць (мазаць) чорнай фарбай (чорнымі фарбамі, у чорных фарбах).

**Малодшы брат**. *Часцей адз. У ролі розных чл. ск. Разм.* Беларусь, беларусы ў адносінах да Расіі, рускіх. **Ант.**: старэйшы брат. *Ад адной думкі злучыцца з самадзяржаўнай Расіяй* ***«малодшых братоў»*** *кідала ў жар і праймаў халодны пот* (Я.Лёсік). *Відаць, спрацавалі не навуковыя аргументы, а ідэалагічныя штампы* ***«малодшага брата»*** *і каланіяльная псіхалогія* (У.Конан). ***«Малодшаму брату»*** *— беларусам царызм дазволіў адкрываць пачатковыя школы на іх роднай мове толькі ў 1914 г., г.зн. у год, калі грымнула Першая сусветная вайна* (Л.Лыч).

**Маляваць (мазаць) чорнай фарбай (чорнымі фарбамі, у чорных фарбах)** *каго, што. Функц. не зам. Неадабр. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы.* Падаваць, характарызаваць каго- ці што-н. у негатыўным плане. **Ант.**: маляваць ружовымі фарбамі *каго, што. Зараз усё часцей гучыць трывога наконт таго, што мы адназначна трактуем 30-я гады,* ***малюем*** *іх толькі* ***чорнай фарбай*** (А.Лукашук). *І тут — пайшло-паехала: ужо назаўтра ж яго выклікалі на «праця-робку» і не без абурэння дакаралі: — Безумоўна, мы, партыйныя кіраўнікі, варты ўвагі як пісьменнікаў, так і мастакоў. Але ж — не* ***чорнымі фарбамі мазаць****...* (А.Масарэнка). *Усё ж з адлегласці пра-жытых гадоў Нафрановіч не засяроджваецца толькі на адмоўным, не* ***малюе*** *ўсё, што было тады,* ***у чорных фарбах*** (А.Кенька).

**Маляваць ружовымі фарбамі (у ружовых колерах)** *каго, што. Функц. не зам. Ужыв. пра дзейн. са знач. асобы.* Падаваць, характарызаваць каго- ці што-н. ідэалізавана, прывабліва, лепш, чым ёсць на самай справе. **Ант.**: маляваць чорнай фарбай *каго, што. Было б не зусім праўдзіва* ***маляваць*** *жыццё нашых землякоў у Літве толькі* ***ружовымі фарбамі****. Крызіс у эканоміцы, беспрацоўе бацькоў, нездаровы клімат у сем'ях — усё тое, што ёсць і ў нас* (Настаўн. газ. 21.05.2002). *Браты ж Ліскоўскія гаварылі многа, з вялікай перакананасцю, гаварылі так, як бы толькі ў іх адчынены вочы на ўсе праявы жыцця. І ўсё* ***малявалі*** *яны* ***ў ружовых колерах*** (Я.Колас).

**<Марны> лямант (голас) у пустыні**. *Мн. не ўжыв. Часцей вык. Кніжн.* Дарэмныя заклікі да чаго-н., якія застаюцца без увагі. *А я нічым не магу дапамагчы вечнасці, акрамя вечнага паўтарэння*

*аднаго і таго ж, вечнага закліку да сумлення братоў. Заклікання, якое часам бывае* ***марным лямантам у пустыні*** (У.Караткевіч). *Развагі і довады Янінага дзеда былі* ***голасам у пустыні*** (А.Ветах).

**Маці-і-мачыха**. *Мн. не ўжыв. Часцей дзейн. і дап. Разм.* Лекавая расліна сямейства складанакветных з шырокімі лістамі, пакрытымі спаднізу белымі варсінкамі, і жоўтымі кветкамі (tussilago L.); падбел. *Маці адна, маці незаменная. Другая ўжо — мачыха. Зірніце на краску* ***маці-і-мачыха*** *— і заўважце, што розныя пялёсткі не толькі па колеры — па цеплыні, па шчырасці* (Р.Барадулін). *Ля валуна, у зацішку, на санцагрэве вылузаліся з зямлі кволыя кветачкі* ***маці-і-мачыхі*** (А.Рыбак).

**Мача ў галаву стукнула (ударыла)** *каму. У безас. ужыв. Праст. Асудж.* Хто-н. зрабіў безразважны ўчынак. — *Табе што —* ***мача ў галаву стукнула****? Бугай бяльмасты! От падыду ды самога — па пысе?..* (М.Кусянкоў). *Верылася, стане цяпер лягчэй: хлопец ён талковы, на рабоце будзе ацэнены, глядзіш, ажэніцца, пойдуць унукі, і яна пры ім спакойна, нармальна ўвойдзе ў старасць. Дык жа* ***мача*** *чалавеку* ***ў галаву ўдарыла*** *— надумаў вучыцца далей. Ды дзе — у тэатральным* (У.Мехаў).

**Мая бярэ**. *Гл.* маё (мая) бярэ (узяла, возьме).

**Міна запаволенага дзеяння.** *Адз. і мн. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам. Неадабр.* Тое, што пагражае небяспечнымі наступствамі. *У 30-я гады рукапісы станавіліся для іх аўтараў* ***мінай запаволенага дзеяння****, – іх нярэдка падшывалі да судовай справы ў якасці «доказаў» варожай думкі, – і часта служылі «падставай», каб «прышыць» пісьменніку 58-ы артыкул крымінальнага кодэкса – «антысавецкую прапаганду»* (У.Конан). *Пытанне аб дзяржаўнасці рускай мовы было вынесена на рэферэндум... Гэта ўсё заклала* ***міну запаволенага дзеяння*** *для юнага пакалення: зараз у Беларусі паўтара мільёна школьнікаў, з іх менш за паўмільёна вучыцца ў беларускіх класах* (В.Класкоўская). *Кааліцыя дазволіла б абысці пакінутыя каланіяльнымі адміністрацыямі* ***міны запаволенага дзеяння*** *– моўныя, рэлігійныя пытанні* (Б.Тумар).

**Можна ў плуг запрагаць** *каго. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. вельмі моцны, здаровы. **Сін.**: хоць у плуг запрагай *каго. Што за народ! Пабачылі, што бяру без чаргі, па тваім дакуменце, то адразу ж накінуліся на мяне, гатовыя былі разарваць: якая я, маўляў, інвалідка, мяне* ***ў плуг запрагаць можна*** (І.Капыловіч).

**Можна язык зламаць (паламаць).** *У безас. ужыв. Разм. Іран.* Цяжка вымавіць што-н. (словы, фразу і пад.). **Сін.**: язык зломіш. — *Адкуль пісьмо? — О,* ***язык зламаць можна****! Нешта такое джык-гам-*

*гаў… — Джэсказган?! — Во-во!* (А.Дудараў). *А як жа нам чытаць газеты, калі там часамі аб напісанае **можна язык паламаць*** (Я.Скрыган). *Калі некаторыя з гэтых слоў прамаўляюцца лёгка ці з пэўным намаганнем.., то на іншых… **можна язык зламаць*** (А.Каўрус).

**Мудрыкі на хітрыкі**. *Часцей дзейн. Разм.* Супрацьдзеянне на чый-н. падман аналагічнымі сродкамі. *Сваю долю грошыкаў ад крадзяжоў пад маім носам я мецць мушу, каб невядома як ім таго не хацелася, сабакам паганым! Няхай толькі спрабуюць яны круціць тут мне, дык я ім цэлае кіно зраблю… **Мудрыкі на хітрыкі** — я, зараза, лепшы за вас злодзей* (С.Яновіч). *Думаў, што яго ніхто не раскусіць, а тут **мудрыкі на хітрыкі** выйшлі* (Г.Юрчанка).

**Мыш не праскочыць**. *У безас. ужыв. Разм.* Немагчыма выбрацца, уцячы адкуль-н. ці пранікнуць куды-н. — *Во паглядзіце: яго арыштоўваюць, а ён завязвае гальштук. Хіба павесіцца ў турме. — Каб ухіліцца ад пакарання, — сказаў Сурвіла. — Ну, такі нумар у нас не пройдзе. У нас парадак!.. — Бальшавіцкі парадак!.. **Мыш не праскочыць*** (В.Быкаў). *Маёр Качароў аддаў загад: па чырвонай ракеце браць хутар наступам. Убачаць, якая сіла прэ, здадуцца. Ніякіх шанцаў у іх няма, кола моцнае, шчыльнае, **мыш не праскочыць*** (А.Кажадуб). *А цяпер — усё! Цяпер іншай дарогі няма! — Міхась яшчэ раз агледзеўся навокал. — Абклалі так, што і **мыш не праскочыць*** (Л.Маракоў).

**Мышыная мітусня**. *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Разм. Неадабр.* Пустыя, бязладныя заняткі, клопаты і пад. *Вячка бачыў **мышыную мітусню** слуг, строгія твары сваіх вояў, густыя калматыя бароды баяр і прасталюдзінаў* (Л.Дайнека).

**Мяккае месца.** *У ролі розных чл. ск. Разм.* Ягадзіцы, зад. *Адзін з мастакоў чытае кнігу, у якой галоўны герой падчас вайны дамовіўся з Гітлерам, што той будзе кожны дзень лупцаваць яго па **мяккім месцы*** (ЛіМ. 10.04.1998). *Народ і цяпер з ахвотай падстаўляе **мяккае месца** для лупцоўкі* (В.Барабаншчыкава). *Толькі я яе за **мяккае месца** ўшчыкнуў, як выходзяць з суседняга пакоя тры дурылы* (Г.Далідовіч). *– Можна лічыць, што дазвол я ўжо атрымаў?! – Зараз я табе па **мяккім месцы** папругаю палічу!* (З.Дудзюк).

**Мяшацца з гразёю**. *Разм. Неадабр. Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета.* Усяляк прыніжацца, беспадстаўна абвінавачвацца. *Наша роднае ўхілялася ўбок, аддавалася на смех, выскалянне і кпіны, тапталася нагамі і **мяшалася з гразёю**, а за прыклад выстаўлялася чужое, велікарускае, дзецям не даступнае і малазразумелае* (Я.Лёсік).

**Н**

**На авось ды нябось.** *Акал. Разм. Неадабр.* З разлікам на шчаслівую выпадковасць, удачу (пакладацца, рабіць што-н.). **Сін.:** на авось; на ўра (у 2 знач.). *Кароў аслабелых падвязваць на вужышчы пад жываты бацька не збіраўся, падсмейваўся з гультаяватых «зімагораў», што пакладаліся* ***на авось ды нябось*** (У.Калеснік).

**Набітасць рукі.** *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Разм.* Вялікі вопыт, добры навык, спрактыкаванасць у чым-н. *Цяжэй, калі чалавек лічыць за прызнанне простую* ***набітасць рукі****, якая дазваляе без намаганняў зарыфмаваць пару лозунгаў і такім чынам «адгукнуцца» на сур'ёзную патрэбу грамадства, хоць яна не стала ўнутранай патрэбай аўтара* (М.Лужанін).

**Навастрыць вушы (вуха)**. *Разм. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы.* Пачаць уважліва прыслухоўвацца, насцеражыцца. **Сін.:** наставіць вушы; натапырыць вушы; развесіць вушы; <увесь> ператварыўся ў слых. «*Які ж гэта лось у лесе паваліўся, што ты рассыпаешся такім дробным макам? Ці, можа, мне пачасціла?*» — *падумаў Лабановіч і* ***навастрыў вуха*** (Я.Колас). *Віктару не спадабалася, што такая размова вядзецца пры малых. Нават Кацька, і тая* «***навастрыла вушы***» (І.Шамякін). *Васіль насцярожыўся,* ***навастрыў вушы*** (А.Макаёнак).

**Навешванне лапшы на вушы** *каму. Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Праст. Неадабр.* Імкненне падмануць каго-н., падман. **Сін.:** адвод вачэй; гульня ў ката і мышку; дымавая заслона; пацёмкінская вёска; траянскі конь (у 1 знач.). *Каму ж патрэбна гэта хлусня,* ***навешванне лапшы на вушы*** *простым людзям?* (Нар. воля. 4.03.1998).

**Наводзіць (навесці) глянец** *на што, дзе. Функц. не зам. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці сукупнасці асоб.* Прыхарошваць што-н., скрываючы недахопы. *У найбольш поўнае пасмяротнае пысінскае выданне ў адпаведнасці з нашай даўняй традыцыяй усюды і ва ўсім* ***наводзіць глянец*** *не ўключаны з кнігі «Наш дзень» ні адзін верш культаўскага характару — з услаўленнем Леніна і Сталіна* (Дз.Бугаёў). *У апошнім нумары часопіса «Амерыка», закліканага* ***наводзіць глянец*** *на заакіянскую рэчаіснасць, многа гаворыцца аб нейкай рэвалюцыі ў галіне грамадзянскіх правоў, якая нібыта адбылася ў 60-я гады* (Звязда. 2.10.1984).

**На возе і пад возам** *быць, пабываць* і пад. *Часцей вык. Разм. Ужыв. са знач. асобы.* У самых разнастайных, прыемных і непрыемных сітуацыях (быць і пад.). **Сін.:** на кані і пад канём *быць* і пад. *Хто я — даліпан, не прызнаюся, людцы хрышчоныя! Быў я* ***на***

***возе і пад возам***, *упапярок, удоўж* (Цётка). *Не было ніякай боязі ні перад Еўропай, ні перад яе валадарамі і ў Ягайлы. Пабываўшы* ***на возе і пад возам****, ён ведаў, на чым свет стаіць, прытрымліваўся завядзёнкі: хто ўмее — робіць, а хто не ўмее, той крычыць і вучыць* (А.Бутэвіч). [*Федароўскі*, с. 47: быць на возе і пад возам — без тлумачэння; *Лепешаў*, с. 47: *бываць, быць* на возе і пад возам — 'у розных жыццёвых абставінах, добрых і дрэнных'.]

**На воўка**. *Акал. Праст.* Навошта. **Сін.:** да д'ябла (у 3 знач.); на ліха; на халеру; на хваробу; на храна; на чорта; на які хрэн; на які чорт; на якога чорта; на якое ліха; на якую трасцу; на якую халеру; якога ліха (у 1 знач.); якога ражна (у 1 знач.); якога хрэна (у 1 знач.); якога чорта (у 1 знач.). ***На воўка*** *табе гэтыя мацамэнды* [прычандалле, living рознае начынне]? (Р.Барадулін). *Ну, падумай:* ***на воўка*** *табе карова? Даглядай яе, кармі. Ці пры тваёй сіле?* (Л.Калодзежны). [*Даніловіч*, с. 118: на воўка.]

**На вушах** *ісці, прыходзіць* і пад. *Акал. Праст. Іран.* У стане моцнага ап'янення. **Сін.**: пад газам; на падпітку; на ўзводзе; пад градусам; пад мухай; пад хмяльком; пад чаркай; пад шафэ. *Гэтым разам падпітак сярэдні, і з Генкам можна гаварыць, бо калі прыходзіў* ***на вушах****, то, акрамя лаянкі, ад яго нічога не дачакаешся, чалавечыя словы да яго не даходзяць* (Л.Арабей). *Скупымі і кепскімі ён лічыў тых, што ставілі мала. Шчодрымі і добрымі тых, ад каторых ішоў* ***на вушах*** (Полымя. 2000. № 6).

**На гвалт.** *Акал. Разм.* **1.** Няўхільна, неадкладна, абавязкова (трэба рабіць што-н.). *Або насоўваецца, скажам, хмара навальнічная, дзядзьку Арэсю трэба* ***на гвалт*** *спяшацца па ячмень, які і не звязаны, у жменях ляжыць...* (Я.Брыль).

**2.** Па дапамогу пры небяспецы (крычаць, галасіць і пад.). *Бадай ты спрахла! Дзе ж дарога?* ***На гвалт*** *крычы гарадавога!* (Я.Колас). [Аналагічны выраз з такімі ж двума значэннямі фіксуецца ва ўкраінскіх слоўніках; параўн.: *Даніловіч*, с. 119: на гвалт — 'вельмі, абавязкова (трэба)'.]

**Нагой дзверы адчыняць** *дзе, каго, чаго. Праст. Неадабр. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы.* Свабодна, беспярашкодна заходзіць куды-н., да каго-н. *Ёсць трывалае меркаванне, што я хаджу на тэлебачанне і ўсюды там* ***нагой дзверы адчыняю*** (ЛіМ. 26.06.1998). *Большасць «дэмбеляў» ніжняй палаты мітусяцца ў пошуках працы і, па старой звычцы* ***адчыняючы нагою дзверы*** *высокапастаўленых вертыкальшчыкаў, патрабуюць уладкаваць іх на кіруючыя пасады* (У.Глод). *Дэпутат узнёсся ў нефармальную вышыню лідэрства і, што*

